УДК 84 821
ББК 84
П-78

**Пракаповіч, І. М.**
П-78 Куфэрак скарбаў : Легенды, паданні і цікавыя гісторыі з крыніц народных / Ігар Пракаповіч. – Мінск : Каўчэг, 2017. – 84 с. : іл.

ISBN 978-985-7185-15-3.

*Новую кнігу пісьменніка і краязнаўца Ігара Пракаповіча склалі апавяданні, сюжэты якіх былі пачуты і запісаны падчас шматлікіх вандровак па абшарах паўночна-заходняй Беларусі. Арыгінальныя легенды, паданні і народныя гісторыі сталі крыніцамі гэтых твораў.*

*Выданне будзе цікавае ўсім, хто неабыякавы да духоўнай спадчыны беларускага народа.*

УДК 84 821
ББК 84

**ISBN 978-985-7185-15-3**

# ДА ЧЫТАЧА

Духоўная спадчына беларускага народа вызначаецца незвычайным багаццем, разнастайнасцю і глыбінёй. Карані яе сягаюць у даўніну, дзе моцна пераплятаюцца з культурнымі і моўнымі парастакамі іншых народаў, якія жылі не толькі на тэрыторыі нашай краіны і вакольных землях, але і на Балканах, у Малой Азіі, Прычарнамор'і, Індыі. Сюжэты легенд і паданняў, мелодыі песень і танцаў, элементы традыцый і абрадаў перадаюцца з пакалення ў пакаленне, пераасэнсоўваюцца, змяняюцца, дапаўняюцца і даходзяць да нашых дзён у новых сваіх формах і абліччах. Гэтыя фальклорныя скарбы выкарыстоўваюцца і развіваюцца нашымі сучаснікамі: пісьменнікамі, музыкамі, народнымі майстрамі, мастакамі, дзеячамі кіно, тэатра і іншых відаў мастацтва. Таму народная спадчына – гэта сапраўдны куфэрак багацця, які будзе доўга жывіць сваімі вобразамі, сюжэтамі, ідэямі беларускую культуру.

Гэта кніга – невялікі збор літаратурна апрацаваных легенд, паданняў, народных жыццёвых гісторый, якія былі запісаны аўтарам на тэрыторыі Пастаўскага, Мядзельскага і суседніх раёнаў. Матэрыялы збіраліся на працягу звыш трыццаці гадоў пераважна падчас вандровак і экспедыцый, якія ладзіліся са школьнікамі. Маімі памочнікамі былі юныя даследчыкі – удзельнікі навуковага краязнаўчага таварыства “Ювента” СШ №1 горада Паставы і гуртка “Тэрра інкогніта” пастаўскай гімназіі. Некаторыя цікавыя звесткі запісваліся ў нататнікі, штосьці – на

дыктафон, асобныя сюжэты запаміналіся, а пазней аднаўляліся ў час апрацоўкі матэрыялаў. Такім чынам сабралася ладная колькасць гісторый і апавяданняў, частка якіх была літаратурна апрацавана і склала гэту кнігу.

Хочацца спадзявацца, што творы, якія ў ёй сабраны, будуць выкарыстоўвацца не толькі для чытання і азнаямлення, але і для далейшага развіцця ў формах кінасцэнарыяў, тэатральных пастановак, напісанні аповесцяў і раманаў, стварэнні сінтэтычных кампазіцый. І куфэрак скарбаў будзе папаўняцца новымі перлінамі і залацінкамі, створанымі нашымі сучаснікамі.

# ЗАЛАТОВАЧКА

У даўнейшыя неспакойныя часы, калі ваенныя віхуры раз за разам спапялялі нашу старонку, самым надзейным сховам для золата была зямля. Гаршчкі і гаршчочкі, збаны і куфэрачкі з манетамі рознай вартасці закопвалі хто пад ігрушай, хто пад вуглом хаты, хто пад каменем. Бывала, ліхалецце пазбаўляла жыцця ўладальнікаў гэтых скарбаў, і таму яны так і заставаліся на доўгія часы ляжаць у зямлі, чакаючы новага гаспадара.

Раскажу вам пра выпадак, які надарыўся ў суседняй вёсцы. Стаяла ўжо спелая восень і быў час капаць бульбу. У аднаго гаспадара, Іванькі, урадзіла яна добра і, каб хутчэй управіцца, той паклікаў на дапамогу суседа Мікіту. Сусед ёсць сусед. Гэта далёкаму родзічу можна не дапамагчы, а суседу – як абавязаны, бо і ён табе нечым аддзячыць. Дык вось, пайшоў Мікіта ў талаку. Колькі яны там поркаліся на полі, дакладна невядома, але тое, што некалькі разоў перапыняліся, каб зрабіць “па чарачцы”, дык гэта факт.

І вось, капаўся-капаўся Мікіта ў баразне – ды глядзь: край нейкай штуковіны з зямлі тырчыць. Ён – глыбей рыцца. Аж гэта гаршчочак гліняны, зверху сапрэлым пакуллем прыкрыты. Падняў ён гэту пацяруху і аслупянеў. Грошы! Поўны гаршчочак! Жоўтыя і белыя манеты! Ды так многа!

А тут як раз Іванька непадалёку быў, усё роўна як сачыў за ім.



«Залатовачка»
Мал. К. Дунец

– Гэй! – крычыць. – Мікіта, мусіць, ты нешта знайшоў?

– Ага.. ага.. – дрыжачым голасам адказаў Мікіта. – Нічога цікавага... Гаршчочак тут...

– А ну дай паглядзець, – кажа тады Іванька.

І ўбачыў Мікіта, што той кінуў кошык з бульбай ды кіруецца да яго. Дзяліць гаршчочак? О не! Мікіта разварочваецца – ды й ходу з агарода. Гаршчочак да грудзей прыціснуў – і бягом. Але ж трохі не разлічыў. Каля яблыні за корань зачапіўся ды і бразнуўся аб зямлю, рассыпаў колькі грошыкаў. А ззаду ўжо Іванька подбегам набліжаецца. Не збіраючы рассыпаных манет, падхапіўся Мікіта на ногі ды й паляцеў як вецер дадому. Там зачыніўся на засаўку, высыпаў грошы на падлогу і давай хуценька выбіраць залатыя манеткі ў адну кучку, а сярэбраныя – у другую. А тут якраз і сын малы, гадоў з 10 яму, прыляпіўся: стаў ля бацькі і то на адну кучку сваімі бліскучымі вачыма паглядзіць, то на другую. А Мікіту гэты сведка як нож па сэрцы. “Прэч, смаркач!” – зароў ён. А сын на гэта схапіў самую вялікую залатоўку – ды ў рот. Бацька падскочыў, схапіў за пашчэнкі... “Дзе?!” – крычыць. А хлопец толькі хрыпіць. Праглынуў.

А ў дзверы ўжо сусед Іванька бразгае, ды і не адзін, а (трэба ж такое!) ўжо і ўчастковага паспеў прыхапіць. Б’юць у дзверы, пагражаюць.

Тады Мікіта залатоўкі ў шчэлкі, што ў падлозе, хуценька пазапіхваў, а срабракі зноў у гаршчок ссыпаў.

Адчыніў дзверы. Доўга потым разбіраліся. Участковы нават допыт учыніў. Але Мікіта ўпёрся рогам: не было золата і ўсё! Сам так казаў, але за сына баяўся. Выдасць,

смаркач. Але не, абышлося. Той таксама матляў галавой і казаў, што золата не бачыў.

Пра залатыя манеты Іванька таксама нічога не казаў, бо падабраў жа рассыпаныя ля яблыні і баяўся, каб іх не адсудзілі. Участковы склаў вопіс, акт і павёз некуды гаршчок з серабром. А мужыкі засталіся займацца ўжо кожны сваёй справай: Іванька пайшоў  пералічваць свае манеткі, а Мікіта ўзяўся падымаць падлогу. Сын жа яго-ны падаўся ў прыбіральню, дзе пасля доўгіх спроб усё ж такі авалодаў сваёй залатоўкай.

## СКАРБ ПАД КАМЕНЕМ

На ўскрайку вёскі Відлы, ці як яе яшчэ называюць, Відляне, ляжыць вялікі шэры валун. Вакол яго зямля абкапана, з прычыны чаго той заглыбіўся ў пясок і зна-ходзіцца нібы ў яме. Здаўна ходзяць чуткі, што пад гэ-тым каменем схаваны багаты скарб. Вось гэта пагаласка і прываблівае сюды шукальнікаў багаццяў ды проста цікаўных людзей. Валун вялікі, з месца зрушыць яго не-магчыма. Вось і капаюць вакол каменя, а той усё больш заглыбляецца ў зямлю, нібыта не жадае аддаваць схава-ныя каштоўнасці. І што дзіўна, нікому яшчэ не ўдалося абкапаць той валун з усіх бакоў. Як толькі пачне хто каля каменя вярнуць зямлю рыдлёўкай, то адразу з вёскі па-дыходзіць нейкі стары, пабурчыць нешта, паглядзіць ня-добра, нічога не скажа ды і пойдзе назад. І як толькі ён знікне за бліжэйшай хатай, у прыродзе пачынае рабіцца штосьці незвычайнае. Раптоўна падымецца моцны вецер,

захістаюцца і застогнуць дрэвы, загалосяць травы і нейкая дзіўная туга напоўніць паветра, увойдзе з дыханнем у грудзі чалавека, запануе над яго розумам, пачуццямі, сэрцам. Кідае тады капальнік рыдлёўку, хапае свае манаткі і кідаецца наўцёкі ад таго валуна.

Таму і кажуць, што скарб той закляты і што вартуе яго стары чараўнік. А схаваў яго пад камень былы тутэйшы пан Аляхно, сядзіба якога стаяла ў суседніх Аляхнішках. Было тое ў час вайны ці то са шведамі, ці то з французамі. Баючыся рабункаў, загадаў пан прыгонным закапаць сваё золата і срэбра пад вялізны валун, а ведзьмаку з Відлян наказаў накласці заклянцце і бараніць скарб да таго часу, пакуль не вернецца сам ці яго нашчадкі. Дзе той пан дзеўся? Ці выжыў у ваеннай калатнечы? Ягоны маёнтак у час вайны быў разрабаваны і спалены. Не вядома, як цяпер, а да нядаўняга часу ў Відлянах жыў чалавек – нашчадак ведзьмака, якому было перададзена ў спадчыну заклянцце і наказ чакаць нашчадкаў таго пана Аляхно…

## ФРАНЦУЗСКІ СКАРБ

Паміж Белькамі і Барэйкамі ёсць урочышча Ольшнева. У мінулым там расло многа дубоў. Частку іх спілавалі людзі, некаторыя былі спалены маланкамі, іншыя ж самі загінулі ад старасці. Але і зараз у той мясцовасці яшчэ сустракаюцца дубы-волаты.

Дык вось, пад адным з іх знаходзіцца багаты скарб. Паводле легенды, з’явіўся ён тут у часы вайны з Напалеонам. Калі французы адступалі з Масквы, то везлі з

сабой шмат нарабаваных каштоўнасцяў. Руская армія грозна рухалася следам і не давала напалеонаўцам ачо-мацца. Таму абозы з нарабаваным дабром падзяліліся на невялікія атрады, кожны з якіх ратаваўся сам па сабе. Так адна карэта з золатам і срэбрам пад аховай невялікай групы жаўнераў патрапіла ў наш край. Французы спя-шаліся хутчэй пакінуць гэту варожую да іх зямлю, але рухацца было цяжка, бо восеньскія дажджы размылі да-рогі, вада ў рэках моцна разлілася. Ды яшчэ да таго ж і моцна захаладала.

На пераездзе ўброд праз невялікую рачулку карэта за-гразла. Тузаліся-тузаліся французы, а рады даць не маглі. А рускія былі ўжо блізка. Тады скінулі яны скрыні і мяхі са скарбамі з карэты ды і закапалі пад бліжэйшым дубам. Пэўна, спадзяваліся, што ўдасца пазней вярнуцца. Самі ж падаліся наўцёкі. Але, мусіць, далёка не ад'ехалі. Кажу-ць, дагналі іх рускія каля Войнеўкі ды і пабілі. Там ёсць яшчэ французскія магілы.

А скарб, напэўна, і сёння ляжыць пад адным з ду-боў-волатаў…

## БАЦЬКАЎ СКАРБ

Калі мне расказалі гэту гісторыю, то я засумняваўся ў яе праўдзівасці. Дужа нерэальнай яна падалася. Але чалавек, які мне яе распавёў, кляўся і бажыўся, што ўсё было на самой справе. А я і цяпер не ўпэўнены, ці магло такое здарыцца ў жыцці?

Як казаў той чалавек, адбылася тая гісторыя ў нашых краях у даўнія часы, пры Польшчы, можа, у 38-м ці ў 39-м. Дакладна не памятаю, але ведаю, што тады ўжо нейкі рух трывожны быў: пра вайну гаварылі, пра Германію ды бальшавікоў. Чуткі хадзілі, быццам Сталін ды Гітлер Польшчу дзяліць будуць. Ну дык вось, асаднікі адчулі, відаць, небяспеку, пачалі пакрыху зямлю прадаваць ды ў Вялікапольшчу падавацца. Некаторыя і з тутэйшых замітусіліся, сёе-тое папрадавалі ды на грошы золата накуплялі. І мелі рацыю, бо потым вайна ўсё роўна многае спаліла ды адабрала, а золата… яно і засталося золатам.

Дык вось, і Антосеў бацька, чалавек працавіты, жылісты, мусіць, нутром адчуў нядобрае і таксама прадаў частку зямлі ды нешта са скаціны. Замеў золата. Антось жа хоць і малы яшчэ быў, але кемлівы і ў вартасці золата і грошай ужо разбіраўся добра. Ён і пачаў сачыць за бацькам, каб даведацца, куды той схавае свой скарб. Доўга чакаць прыйшлося. Аднойчы апоўначы пачуў Антось, як бацька ўстаў з ложка, патупаў каля печы, апрануўся ды падаўся на двор. Ноч была месячная, і сын мог добра бачыць, як бацька выняў з падпечка нейкі скрутак.

Нядоўга думаючы, амаль голы Антось выскачыў на двор за бацькам і паспеў заўважыць, як той завярнуў у хлеў.

Хлопец крадком падышоў да варот хлява і ўбачыў, як бацька, стоячы на каленях, разграбае старую салому ды хавае туды золата. Зрабіўшы справу, устаў, падняў галаву ўгару і пачаў шаптаць закляцце. Антось мала што пачуў з тых слоў, але апошнія сказы, якія бацька паўтарыў трой-

чы, да яго даляцелі выяўна. І гучалі яны так: “Якая рука закапала – тая і адкапае”.



«Бацькаў скарб»
Мал. К. Дунец

Тады Антось ледзь паспеў незаўважна вярнуцца ў хату, а словы тыя моцна запомніў. І ўсё думаў, як бы яму і закляцце не парушыць, і золатам завалодаць.

А час ішоў. Мінула вайна. Папаліла, парабавала. Галадуху і нястачу давялося пераждыць і Антосю з бацькам. А калі жыццё ў людзей пачалося наладжвацца, бацька занепаў здароўем, змарнеў і хутка памёр.

Нешматлікія суседзі дапамаглі змайстраваць труну, абмыць, апрануць ды палажыць нябожчыка ў дамавіну. І тут Антось зразумеў, што можа не здолець ужо зняць закляцце са скарбу. Дык што ён робіць? Ноччу рознымі ўгаворамі-адгаворамі выправаджвае суседзяў з хаты, вымае нябожчыка з труны і цягне яго ў хлеў. Там, прачытаўшы малітвы і тры разы прамовіўшы закляцце : “Якая рука закапала – тая і адкапае”, бацькавай рукой разгроб

салому і забраў золата. А потым зноў паклаў нябожчыка ў дамавіну, запрасіў суседзяў і, ужо значна павесялеўшы, працягваў жалобу па бацьку.

Вось дык Антось! І закляцце зняў, і золатам заваладаў...

## ЦЁТЧЫНА ЗОЛАТА

У адной цёткі было некалькі сыноў і дачок. Дзе хто з іх быў і што дзе рабіў, гэтага я сказаць дакладна не магу. Але тое напэўна ведаю, што адзін сын яшчэ за польскім часам служыў у войску. Быў, мусіць, простым жаўнерам. І што там такое надарылася, як што сталася, а завадзіўся ён з гэткім жа самым, як і ён, шараговым вайскоўцам. Ці то дзяўчыну яны не падзялілі, ці то па службе што. Ну дык той і сказаў, што стрэліць у гэтага цётчынага сына. Таму б і саступіць. Дык дзе там! Малады, кроў гарачая. Рассмяяўся ў адказ. Маўляў, нічога ты не зробіш, не стрэліш, проста пужаеш. А той узяў ды і стрэліў акурат у скронь. І забіў. Так што дарма смяяўся. Смяяцца таксама трэба ведаць калі. Таго жаўнера, што страляў, вядома ж, пасадзілі. А як жа! Забіць чалавека – гэта ж не муху прыхлопнуць! Пасадзілі, пэўна, ці, можа, якую іншую кару прыдумалі. Тады з гэтым жорстка было, не тое, што цяпер. Але што з ім было, тое і было, а я хачу расказаць пра іншае.

Пасля таго, як гэтага жаўнера застрэлілі, то цётцы (гэта значыць, ягонай матцы) прызначылі пенсію ў 120 злотых у месяц, што на той час былі ладныя грошы. Гэта

цётка, не будучы дурніцай, усе гэтыя грошы пераводзіла ў золата. Нам толькі здаецца, што час марудна паўзе, а як прыйдзе старасць, то тады і разважаеш: а як жа хутка гэты час прайшоў! Дык вось і цётка збірала гэта золата гадоў з пятнаццаць і, відаць, ладна яго назбірала. Дзеці адышлі, жыла адна. Ні з раднёй, ні з суседзямі нейкіх, каб сказаць, шчырых адносін не мела. Так і памерла, нікому нічога не сказаўшы пра золата.

Вядома ж, на пахаванне з'ехалася бліжэйшая радня, зрабіла ўсё, як і патрэбна сярод людзей: і пахавалі, і адплакалі, і хаўтуры зрабілі. І золата шукалі па ўсіх кутках, ды так і не знайшлі.

Толькі аднаго разу, неўзабаве пасля хаўтураў, малы хлапчук Анцік гуляў на лаве ў пуні і адчуў пад посцілкай нейкую мулкасць, няроўнасць. Зазірнуў пад посцілку і ўбачыў там 6 залатых зліткаў. Каб жа быў большы сам, то ўзяў бы ды прыхаваў гэта золата. Дык не ж! Паклікаў дзядзьку. А ў таго розуму, як у Анціка, – панёс ён тыя зліткі ў хату.

А там па пакоях совалася Анцікава цётка, дзядзькава сястра, моцна галосячы ды заломваючы рукі. Анцік пэўна ж думаў, што гэта яна па матцы сваёй не можа ніяк суцешыцца, а яна ж па золаце спакою не магла знайсці. Як падумае, што золата ў нейчых іншых руках, дык ёй тады і млосна робіцца, і ў сутаргі кідае, і рукі заломваюцца. Але ж як пабачыла золата, дык куды толькі што і дзелася з тых перажыванняў. Яна схапіла золата і хуценька паехала. А гэтыя "вароны", дзядзька з Анцікам, доўга яшчэ не маглі нічога ўцяміць. Вось вам і цётка!

Але, трэба сказаць, была яна адзінокая і, магчыма, Бог яе за гэта золата і пакараў. І хоць хінулася яна да касцёла, служыл то пры адным, то пры другім храме, а ўсё ж, відаць, душа яе так і не знайшла спатолі.

У канцы жыцця свайго яна захварэла і вярнулася на радзіму. Пасялілася ў старой матчынай хаце. Аднаго разу папрасіла дарослага ўжо Анціка, каб той завёз яе ў касцёл да споведзі. Доўга яна там спавядалася, стаяла на каленях, малілася і плакала. А на зваротным шляху дала Анціку 10 рублёў золатам.

У хуткім часе здароўе яе моцна пагоршылася, яна злягла. Яе пачалі даглядаць бацькі Анціка. І вось, калі ёй стала зусім дрэнна, то яна папрасіла, каб яны паклікалі Анціка (той жыў не з бацькамі). Але бацькі не звалі яго, бо не хацелі, каб цётка аддала золата іхняму сыну: самі пакваліліся на яго.

Анціка паклікалі ў той дзень, калі яна ўжо адышла ў свет лепшы. Пэўна, яшчэ да ягонага прыходу бацькі тое золата забралі, бо пры ім знайшлі толькі польскія грошы, злотыя.

Потым, ужо пасля вайны, памерла маці. Праз 11 гадоў пасля маці памёр і бацька, але так і не сказаў Анціку пра золата.

Але яно ўсё ж, відаць, знайшло гаспадара: сястра Анціка праз колькі гадоў уставіла сабе залатыя зубы, нават на здаровыя і то паставіла каронкі. Разам з мужыком купіла дом вялікі ў Друі, спачатку “Запарожац”, а потым яшчэ і “Жыгулі”.

Вось такі лёс у цётчынага золата. А каб і далей прасачыць, дзе, па якіх руках ды сховах яно ходзіць, то пэў-

на б, не тое можна было б расказаць. Ну, ды пакуль што хопіць...

## КАПЛІЦА Ў КУБАРКАХ

Непадалёку ад Груздава на скрыжаванні палявых дарог стаяла раней невялікая прыгожая каплічка. Яна ўзвышалася на схіле ўзгорка і прыцягвала ўвагу сваім цьмяна-медным адценнем чырвонай цэглы. Але так было раней, у пачатку XX стагоддзя. Зараз ад яе засталіся толькі сцены, якія, нібыта прывіды, выглядаюць праз густое галлё маладых дрэў. Столяванне прагніло, дах абрынуўся, а дажджы размылі і засыпалі пячоры склепаў. Сум агортвае душу, калі трапляеш на гэта месца, бо ў памяці ўсплывае паданне, якое ўсклыхвае пачуцці і прымушае чарговы раз задумацца пра пакручастыя шляхі жыцця чалавечага.

Як успамінаюць мясцовыя старажылы, гэту каплічку пабудавалі ў канцы XIX – пачатку XX стагоддзя на сродкі двух тутэйшых паноў – Хомскага і Снарскага. Яны былі суседзямі і, відаць, мелі добрыя стасункі між сабою. Каб нейкім чынам аддзячыць Бога за лад і згоду, яны вырашылі паставіць капліцу на мяжы сваіх уладанняў. Парабкі працавалі талкова і хутка, бо за работу ім плацілі добрыя грошы. Невялікая, але зграбная каплічка выклікала захапленне. Здаецца, жыві і радуйся. Але ж, пэўна, нешта было не так. Не думаў Хомскі, што ў яго хату хутка ўвойдзе бяда. Усё, здаецца, ішло добра: багаты дом, вялікая сям’я, дванаццаць дзяцей… А гора звалілася

зусім нечакана. Атруціўшыся грыбамі, памерла сямёра дзяцей. Жонка не аправілася ад трагедыі і ў хуткім часе таксама пакінула гэты свет. Іх усіх пахавалі ў новай капліцы. Хомскі справіў пышныя і багатыя хаўтуры, але ці дапамагло гэта памерлым? Труны вырабілі з дубовых дошак, абабітых бліскучай бляхай з прыгожымі ўзорамі, і паставілі ў змураваныя пячоры, утварыўшы фамільны склеп.

Але жыццё працягвалася. Хомскаму трэба было неяк гадаваць і выхоўваць пяцёра дзецей, якія засталіся з ім. На сядзібе патрэбна была жанчына. Яшчэ пры жыцці жонкі Хомскі наняў у хату парабчанку – маладую і прыгожую дзяўчыну. Яна прыбірала ў пакоях, мыла бялізну, дапамагала гаспадыні гадаваць дзяцей, ва ўсім імкнулася патрапляць панам. Вось ёй Хомскі і прапанаваў выйсці за яго замуж, бо разумеў, што дзецям патрэбна клапатлівая маці, а не нейкая багатая беларучка.

Дзяўчына згадзілася стаць яго жонкай, хоць розніца ў гадах была вялікая. Багатыя суседзі і родзічы Хомскага не разумелі, але сам гаспадар цешыўся з таго, як маладая жанчына апякуецца дзяцьмі, як вядзе гаспадарку, як паважае і любіць яго.

Але радасць сумеснага жыцця была нядоўгая. У хуткім часе Хомскі памёр, і маладая жанчына засталася ўдавой. Упраўляцца гаспадаркай адной стала значна цяжэй. А паны-суседзі пачалі заляцацца да яе, прапаноўвалі руку і сэрца, каб замець жонку-прыгажуню ды яшчэ і немалы маёнтак. Урэшце, жанчына пагадзілася выйсці замуж за пана Снарскага, – уладальніка памежных земляў.

Пан Снарскі на той час быў вельмі паважаны і вядомы чалавек ў тутэйшай мясцовасці. Ён меў каля 60 гектараў зямлі, трымаў вялікую гаспадарку: каровы, коні, авечкі, свінні. На работы пастаянна наймаў парабкаў і прыстойна ім плаціў. Таму людзі ўспаміналі пра яго як пра добрага, шчодрага, справядлівага чалавека. Гэтыя рысы характару падкрэслівае і такі факт, што за талерку суніц ён плаціў 50 грошаў.

Снарскі клапаціўся пра сваё здароўе і таму трымаў асабістага ўрача Сямашку, для якога была збудавана невялікая хата. У ёй доктар прымаў хворых, у тым ліку і з беднякоў.

Сядзібны дом Снарскіх стаяў на ўзгорку каля ракі Аржоўкі і быў добра бачны здалёк. Ён уздымаўся на высокім падмурку, быў рублены з адборнага дрэва. Пад хатай знаходзіліся вялікія скляпы, у якіх захоўвалася рознае дабро. У пакоях стаяла шыкоўная мэбля, дарагія ярка-чырвоныя дываны ўпрыгожвалі падлогу і сцены. Вакол сядзібы рос вялікі сад. Гаспадары шчодра дзяліліся ўраджаем яблыкаў з мясцовымі сялянамі, асабліва любілі частаваць дзяцей.

Род Снарскіх заўсёды быў у пашане. Мясцовы ксёндз Пілецкі меў за гонар быць асабіста знаёмым з панам. Кажуць, што сам Пілсудскі накіроўваў у двор ганаровыя дэлегацыі.

Час ішоў. Прыблізна ў 1920 годзе памёр пан Снарскі. Кіраване гаспадаркай перайшло да ўпраўляючага Чыжэўскага. Справы пайшлі горш. Пані Снарская, каб неяк палепшыць становішча, прадала частку зямлі.

У 1939 годзе пачалася Другая сусветная вайна, жыць стала вельмі цяжка. У 1943 годзе партызаны спалілі сядзібу, і пані Снарская, сабраўшы апошнія пажыткі, пайшла па-бірацца. Памерла яна ўвосень 1947 года. Перад адыходам у нябыт папрасіла толькі, каб яе пахавалі не ў капліцы, а каля яе. Яна не пажадала быць замураванай у пячорах фамільнага склепу: ужо тады капліцу разрабавалі шукальнікі золата, якія астанкі нябожчыкаў выцягнулі з магіл і раскідалі па ўзгорку. Кажуць, у апошнія гады свайго жыцця пані Снарская даволі часта наведвалася да гэтага некропаля. Яна, амаль нямоглая, збірала і перазахоўвала косткі тых людзей, з якімі калісці побач жыла, даглядала магілы парабкаў, якіх раней хавалі каля капліцы.

Людзі задаволілі апошнюю просьбу пані. І яе костачкі ляжаць на пагурку каля напаўразбураных сцен былой прыгожай капліцы, рэшткі якой, як прывіды, хаваюцца сярод густога галля маладых дрэў…

## СЛЯДОК МАЦІ БОЖАЙ

Дзесьці паміж вёскамі Мальковічы і Дзядзенкі Горныя ёсць чароўны камень, на якім адбіты слядок Маці Божай. Толькі знайсці яго цяжка. Не трапляецца ён на вочы тым, хто счарсцвеў душой і згубіў спадзяванне на лепшае, і адкрываецца толькі для тых, хто хворы і нямоглы, але мае надзею і верыць у цуд.

Кажуць, даўным-даўно, у часы, калі па зямлі блукала шмат жабракоў і калек, падышлі аднойчы да таго каменя тры такія пакутнікі. Адзін доўгі час працаваў на

шкодных капальнях, і ўсё яго цела пакрылася болькамі, другі шчыраваў на пана, але быў несправядліва пакараны, збіты так, што ледзь хадзіў, трэці выплакаў вочы свае ад жыццёвых няшчасцяў і аслеп. Усе яны былі нявіннымі ахвярамі суровай рэчаіснасці.

Стаміўшыся, селі жабракі недалёка ад каменя, расклалі свае небагатыя пажыткі, сабраліся ўжо падсілкавацца. А дзень быў пахмурны, змрочны. Толькі яны змовілі малітву, як раптам, нібы ўспышка, прабіўся скрозь хмары яркі сонечны прамень, упаў на камень, заіскрыўся тысячай залацінак, з якіх утварылася празрыстае ззяючае воблака, а ў ім – Маці Божая. Знямелі, знерухомелі падарожныя. А Маці Божая перажагнала іх, прашаптала нейкую малітву. Хмары зноў зацягнулі неба, сонечны прамень знік, ззянне і воблака, у якім была Багародзіца, растварылася ў паветры, нібыта яго і не было.

Падарожнікі, уражаныя ўбачаным цудам, упалі на калені і папаўзлі да каменя. Яны плакалі ад радасці, гладзячы рукамі і цалуючы той валун. І – дзіва! З імі самімі адбыўся цуд. Невідушчы стаў зноў бачыць, да знямоглага вярнуліся сілы, у хворага загаіліся раны. Яны радаваліся, як дзеці, шэпчучы і паўтараючы ўсе малітвы, якія толькі ведалі.

Толькі крыху пазней, калі хваля першай бурнай радасці прайшла, яны заўважылі, што на камені, на тым месцы, дзе стаяла Маці Божая, застаўся яе слядок.

Паклалі тады падарожнікі на валун ахвяру – сваё сціплае багацце – некалькі сярэбраных манет, памаліліся яшчэ раз і пайшлі у свет расказваць людзям пра цуд, які адбыўся каля таго каменя.

Многія чулі пра той валун, шукалі яго і знаходзілі. Але апошнім часам усё радзей адкрываецца ён людзям. Мо таму, што паменела шчырасці ў душах, а духмяны хлеб сэрца ператварыўся ў счарсцвелую скарынку…

## КАЗУРАВА КАПЛІЦА

Паміж Паставамі і Лучаем ёсць невялічкая вёсачка Пухаўка. Названа яна  так, відаць, з-за "пухных", забалочаных земляў, ляжыць воддаль ад бальшака і паціху вымірае. "Шчарбатай" становіцца вёска: усё  больш з'яўляецца ў ёй халодных, няцепленых узімку хат з вокнамі, што надзейна пазабіваны дошкамі. Ды і тыя, што цепляцца, непрыгожыя, маленькія ды старыя. Праўда, быў тут калісьці панскі маёнтак, бо сведчаць пра гэта вялікія камяні з падмуркаў, рэшткі якіх вытыркаюцца сям-там з зямлі, вялікія дрэвы, што адметнай купкай узвышаюцца на пагурку і шматлікая колькасць буйных вінаградных смаўжоў. Старыя людзі казалі, што паны гэтых слімакоў даўней адмыслова разводзілі ў сваіх садах, нават французам прадавалі як далікатэс. Але няма даўно ўжо тых паноў, няма і заможнага маёнтка. І адзінае месца, якое прыцягвае ўвагу, – узгорачак на ўскрайку вёскі, дзе стаіць каплічка. Яна невялічкая, вымуравана з чырвонай цэглы. Наверсе, як бы ў зашклёным дамку, знаходзілася раней гіпсавая фігура Маці Божай. Вакол капліцы расла густая трава, а крыху воддаль – высокія дрэвы. Завецца яна "Казурава капліца", бо паставіў яе ў 1936 годзе мясцовы жыхар Вацлаў Казура. Быццам бы нічога адметна-

га, але святым лічыцца гэта месца ў людзей, бо вялікую Боскую сілу мае яна. У гэтым мне давялося ўпэўніцца самому.

Было гэта гадоў трыццаць таму. Тады быў я зусім яшчэ маладым доктарам, толькі пасля медыцынскага інстытута. Працаваў першы год у Дунілавіцкай бальніцы і меў магчымасць часта наведваць бацькоў, якія жылі ў Курылавічах. Вось неяк увосень папрасілі яны мяне, каб прыехаў на кані  адараць агарод ды соткі. На рабоце ў бальніцы меўся добры конь, якога работнікі бралі па патрэбе. Так і я, адпрасіўшыся з працы, узяў каня і на досвітку паехаў дадому. Там хутка ўсё ўзараў, бо малады быў, здаровы. Яшчэ аднаму суседу даў каня і потым, недзе пасля абеду, выехаў назад. Але не ад’ехаўся і пары кіламетраў, як убачыў на ўсходзе невялікую блакітна-белую хмарку, якая літаральна на вачах пачала хутка распаўзацца па небасхіле. Яна ішла проста на мяне, паступова займаючы неба і наліваючыся трывожнай сіня-чорнай фарбай.

Калі я пад’ехаў да Пухаўкі, тая хмара ўжо пачала наплываць на сонца. Наперадзе спачатку зрэдку, а потым усё часцей і часцей заблішчалі маланкі і страшэнна пачалі лупіць, раскатваючыся ў паветры, перуны. Конь уздрыгваў, пужаўся, аж прысядаў ад чарговага грому. І я, хоць і не баязлівы дзяцюк, але таксама адчуў страх.

Каля Казуравай капліцы спыніўся. Душа адчула патрэбу папрасіць паратунку ў Маці Боскай, і я шчыра памаліўся, а потым з нейкай палёгкай на сэрцы паехаў проста ў напрамку хмары. Трэба зазначыць, што ў самой вёсцы вялікія дрэвы месцамі навісалі над дарогай, утва-

раючы лісцевы дах. Конь, падышоўшы пад покрыва густога, шырокага арэшніку раптам спыніўся і стаў як укапаны. Я торгнуў лейцамі, але той не крануўся з месца. І раптам да майго вуха даляцеў густы шум дажджу, што імкліва набліжаўся да вёскі. Наляцеў вецер, закруціў віхор пяску, пылу і лісця, які імкліва панёсся ўздоўж вуліцы. Стала зусім цёмна.

Я ўжо падрыхтаваўся да горшага: захутаўся ў свой старэнькі плашчык і пачаў чакаць патопу.

Але тут адбылося дзіва: дождж, які, як плёткай, сцябаў па вулічных каляінах, амаль імгненна ператвараючы пыл у гразь, дайшоўшы да мяне, сыпануў прыгоршчу сваіх буйных кропель і, быццам спужаўшыся нечага, раптам павярнуў убок, і я пачуў, як зашумеў, забарабаніў ён у напрамку на Цешалава.

Прайшло яшчэ колькі часу, і літаральна на вачах чорна-сіняя хмара пачала святлець, разрывацца – і, калі я выехаў за вёску, у небе бліснула сонца, якое высвеціла тую жахлівую карціну, якую натварыла бура. Дарога нагадвала балота, па якім імкліва несліся перапоўненыя ручаі, сям-там валяліся паламаныя дрэвы ды галлё.

І на шляху, і ў саміх Дунілавічах сустракаў прамоклых людзей, і яны дзівіліся, што я сухі, а калі расказваў, як усё адбылося, то дзівіліся яшчэ больш, але не верылі.

А месяцы праз тры адбылася яшчэ адна падзея, што прымусіла ўспомніць пра капліцу і яшчэ больш паверыць у яе святасць і сілу.

Быў я якраз на дзяжурстве, калі на прыём прыйшоў сярэдніх гадоў мужык. Стагнаў ад болю, лаяўся і пра-

клінаў сам сябе. Дыягназ быў відавочны: адкрыты пераломом рукі, моцна збітыя ногі, гузак на ілбе. З яго блытанага апавядання можна было ўявіць сабе ўсё, што з ім здарылася.

Паехаў гэты чалавек на матацыкле на паляванне. Хадзіў-хадзіў, за дзень збіў ногі, а нічога так і не ўпаляваў. Тады ад няма чаго рабіць, выйшаўшы на дарогу каля Пухаўкі, вырашыў праверыць, ці добра страляе стрэльба. І не знайшоў лепшай мішэні, чым выява Маці Божай у Казуравай капліцы. Стрэліў – і патрапіў. А назад ехаў на матацыкле ды і стукнуўся ў дрэва. Добра, што жывы застаўся, а то магло быць і горш. Добраму – дабром, а дрэннаму – дрэнным.

Вось такая капліца ў Пухаўках.

## КАСЦЁЛ НА ГАРАДЗІШЧЫ

Даўным-даўно гэта было. Тады яшчэ і лясы раслі гусцейшымі, і рэчкі цяклі хутчэй, і ў азёрах рыбы ставала, ды і сонца неяк свяціла цяплей. А як прыгожа было наўкол! Як узбярэшся на гару, што каля Яцавіч, дык здаецца, што палову Зямлі нашай відаць: і бары нечапаныя, што цёмнай хмарай цягнуцца далёка-далёка на поўнач, і палі-агароды, што грэюцца на сонечных пагорках, і азёры, чыстыя і светлыя, што, як душы людзей добрых, глядзяць здзіўлена на свет.

А на вялікай гары, што каля возера Світа, на самай яе вяршыні, уздымаўся велічны касцёл. Добра папрацавалі дойліды, каб зрабіць такую прыгажосць. Ды і месца вы-

датнае абралі, бо і з Паставаў, і з Манькавіч добра ён быў відаць.

Лічылася гэта месца святым, бо казалі, што знаходзіўся там абраз Маці Божай, які меў цудадзейную сілу: хворых лячыў, сляпым зрок вяртаў, калекам раны гаіў, розныя ўнутраныя хваробы выганяў.

Ды прыйшла аднойчы на нашу святую зямлю чорная бяда. Шведскія заваёўнікі пачалі забіваць і рабаваць нашых людзей, паганіць нашы святыні. Дабраліся яны і да касцёла. Уварваліся, сталі зрываць і тапнаць абразы, ламаць крыжы, нішчыць аздабленне храма. А колькі багацця ў там было!

А камандзір атрада, як убачыў цудадзейны абраз, дык як звар'яцеў усё роўна. Падбег да яго, выхапіў меч і з крыкам: «Хай загінуць святыні гэтага народа!» – жахнуў па абразу зверху ўніз. І рассек яго.

Не паспеў ніхто са шведаў выйсці з касцёла, бо той як стаяў, дык так і праваліўся скрозь зямлю. І зараз на тым месцы можна знайсці дзе-нідзе кавалак гнілога дрэва або іржавага жалеза. А ў ціхія месяцовыя ночы, калі паверхня азёраў ледзь серабрыцца, а дрэвы на гарадзішчы стаяць сумныя і задуменныя, можна пачуць, як з-пад зямлі ледзь чутна ліюцца самотныя гукі аргана. Праўда, кажуць, з гадамі музыка робіцца ўсё больш жалобнай, а гукі чуваць усё радзей і цішэй…

## ГАЮЧАЯ КРЫНІЦА “ГРАМЯКІ”

Каля вёскі Сарокі ёсць крыніца “Грамякі”. Вада ў ёй лічыцца святой, цудадзейнай. Пра гэту крыніцу мясцовыя старажылы расказваюць наступную легенду.

Аднойчы ў час ваеннага паходу княская дружына спынілася на гары Вясёлай, што ўзвышаецца паміж ракой Ласіцай і Сароцкім возерам. Месца падалося бяспечным і вырашана было тут адпачыць пасля доўгіх пераходаў. Па загадзе старога князя пачалі ўладкоўваць лагер, выставілі дазор. Ваяры секлі дрэвы, распальвалі вогнішчы, рыхтавалі вячэру. Малады князь са сваімі целаахоўнікамі павёў паіць каня. Спусціўшыся з гары, ён пачуў, што дзесьці недалёка шуміць вада. На гэты гук і накіраваўся князь. Каля невялікага балотца са шматлікімі бабровымі норамі і хадамі ўбачыў ён акенца чыстай вады, з якога, звонка пырскаючы на камянях, выцякаў ручаёк. Спакой і нерухомасць панавалі тут. На паверхні балотца ляжаў густы слой моху і некалькі паваленых дрэў.

Не прадбачачы нічога дрэннага, малады князь накіраваўся да акенца з вадой. Але як толькі ён узышоў на балота, то адразу ж праваліўся ў твань. Мох разышоўся – і багна на вачах целаахоўнікаў за некалькі хвілін паглынула князя разам з канём.

Ваяры паднялі трывогу. Праз некалькі хвілін вакол балотца сабралася амаль уся дружына. З твані пачалі імкліва выцягваць дрэвы і мох, закідваць вяроўкі з грузам і дзідамі на канцах у спадзяванні, што ўдасца імі зачапіць маладога князя. Але вяроўкі размотваліся, надточваліся, але ні адна з іх так і не дастала дна.

Тады адзін з ваяроў прапанаваў перакрыць усе бабровыя норы і ручаіны, праз якія выцякала вада. Такім чынам раней ратавалі тапельцаў: не маючы сцёку перапоўненая вадой крыніца выштурхоўвала тады на паверхню свае ахвяры. Так і зрабілі. Залажылі ўсе норы і выхады, і пачалі з надзеяй чакаць. Узровень вады пачаў хутка падымацца і раптам у тым месцы, дзе было акенца, ударыў у неба высокі фантан чыстай халоднай вады. Пыркі ад яго патрапілі на твар аднаго з ваяроў і тут адбыўся цуд: глыбокі крывавы шрам на шчацэ, атрыманы ў апошняй бітве, імгненна загаіўся і праз некалькі хвілін амаль знік. Дружыннікі пачалі абмывацца крынічнай вадой, піць яе – і дзіва: зажывалі старыя раны, чысцелі і святлелі твары, у стомленыя целы вярталіся сілы і здароўе! Але гэтая радасць змяшалася з горыччу. Цела маладога князя крыніца так і вярнула, прыняла як ахвяру.

Вада пералілася праз запруду і пацякла ручайком у раку. Фантан пачаў змяншацца і хутка зусім прапаў. На месцы былога балотца білі з-пад зямлі струменчыкі, утвараючы вялікую крыніцу з гаючай вадою.

Моцна тады зажурыўся стары князь па свайму сыну. Але не ўпаў у адчай. Ён, а за ім і ўся дружына, апусціўся на калені перад крыніцаў і звярнуўся з малітвай да вышэйшага свайго бага – Перуна. З таго часу і завецца гэта крыніца “Грамякі”, бо “грамяк” – гэта тое самае, што і Пярун – паганскі бог, уладар громаў і маланак.

Зараз тая крыніца ачышчана, акультурана, і любы чалавек можа падысці да яе, каб умацаваць свае фізічныя і духоўныя сілы.

# СВЯТЫ КАМЕНЬ КАЛЯ КАПТАРУНАЎ

У ваколіцах вёскі Каптаруны, што на Лынтупшчыне, выяўлена шмат вялікіх камянёў, якія абвешчаны помнікамі прыроды. Сярод іх і Святы, або Дзіравы камень. Ён ляжыць у лесе непадалёку ад вёскі Каптаруны і выдзяляецца не сваімі памерамі, хоць і яны даволі ўнушальныя (2,45 х 1,85 х 1,0 м), а дзіркай – канусападобным паглыбленнем з папярочнікам да 15 см і глыбінёй да 20 см. Валун мае культавае значэнне: мясцовыя жыхары пакланяліся яму на працягу стагоддзяў і да сённяшніх дзён прыносяць да каменя ахвяраванні. У 1993 годзе там былі выяўлены савецкія грошы, беларускія “зайчыкі”, літоўскія літы. Вада з дзіркі (а яна знаходзіцца там пастаянна) лічыцца гаючай: пры хваробах ёю абмываліся, прамывалі вочы. Раней падчас рэлігійных святаў да каменя прыходзілі вернікі. Пра Святы камень на Беларускім тэлебачанні зняты відэасюжэт.

Але гэты валун не толькі можа лячыць, але і караць. Вось якую трагічную гісторыю расказваюць мясцовыя жыхары Каптарунаў. Сябравалі між сабой тры вясковыя падлеткі, і любілі яны бавіць час каля таго Дзіравага каменя. Але ставіліся яны да яго не як да святыні, а як да звычайнай камлыгі. Яны гойсалі па ім, білі палкамі, нават спраўлялі каля яго малую патрэбу. Бацькі папярэджвалі дзяцей, пужалі магчымымі наступствамі, але свавольнікі не праслухоўваліся і рабілі так, як ім хацелася. І пакаранне было пякельным. Ніхто з іх не дажыў і да трыццаці гадоў – усе паасобку ў розны час згарэлі ва ўласных хатах.

## КУЛЬТАВЫ ДУБ

У часы паганства старажытныя людзі пакланяліся духам зямлі, якія ўвасабляліся ў каменне, азёры, крыніцы, расліны. З дрэў найболей шанаваўся дуб. Яго трываласць і магутнасць, доўгі век жыцця выклікалі павагу, нараджалі веру ў яго звышнатуральнасць і магчымасць ўплываць на навакольны свет.

Да нядаўняга часу ў Паставах на Гарадзішчы (Востраве) за касцёлам каля ракі Мядзелка рос тысячагадовы дуб. Як мяркуюць археолагі, дрэва было культавым, а каля яго месцілася капішча. У 2008 годзе дуб спілавалі, бо ён згубіў трываласць з прычыны вялікага дупла, якое часткова ўтварылася само, часткова было выпалена людзьмі. Рэшткі таго культавага дуба яшчэ надаўна можна было бачыць каля рэчышча Мядзелкі за плябаніяй.

А на месцы, дзе рос волат, час ад часу з’яўляецца белая постаць. Высокі сівы дзед з доўгай барадой то сядзіць нерухома каля ракі, а то марудна брыдзе ўздоўж Мядзелкі, паступова знікаючы ў прыбярэжных туманах…

## КАПІШЧА НА САРОЦКАЙ ГАРЫ

Каля вёскі Сарокі ўзвышаецца вялізная гара з пляскатай вяршыняй. Даўней яна добра выдзялялася сярод вакольных прастораў сваімі стромкімі схіламі і адметнай чорнай зямлёй на паверхні. Зараз вакол гары і на яе вяршыні расце лес, які пасадзілі пасля Другой сусветнай вайны. Гэта месца здаўна называюць “Гарадзішча”.



Культавы дуб
Мал. Г. Пракаповіч

Як расказваюць старажылы, вельмі даўно на вяршыні гары стаяла царква, але па невядомай прычыне яна правалілася пад зямлю. І быццам бы ў некаторыя дні чуваць, як недзе глыбока ў нетрах б'юць званы.

А яшчэ кажуць, што на той гары ляжаў раней вялікі камень, да якога ў старажытнасці мясцовыя людзі хадзілі маліцца. Мо і сапраўды на Сароцкай гары было калісьці капішча паганскіх багоў?

## СТАНЕЛЕВІЦКІЯ ВАРАЖБІТЫ

Вёска Станелевічы, што ляжыць на поўдзень ад Ласіцы, на першы погляд быццам бы нічога цікавага і адметнага не мае. Сялянскія хаты стаяць абапал дарогі, а вакол – палеткі ды ралля. Але цікавосткі ёсць і яны глыбінныя, патаемныя. Па словах адной мясцовай жыхаркі, у вёсцы жыло пяць, а можа і болей, варажбітоў. Прычым, некаторыя былі вельмі моцныя ў сваёй таемнай сіле. З яе ж слоў, калі адна з варажбітак памірала, то дні і ночы бушавала бура, а жанчына ніяк не магла сканаць. Бачачы такое, людзі вынеслі яе ў хлеў, але і гэта не дапамагло. Тады зноў прынеслі ў хату, і толькі пасля таго, як разабралі столь у пакоі, дзе яна ляжала, варажбітка сканала.

Пра глыбокія карані паганства ў тутэйшай мясцовасці сведчаць некаторыя аб'екты і назвы ў ваколіцах вёскі. Так, у бліжэйшым балоце вада пеніцца як шампунь, а ў торфе сустракаюцца рэшткі аеру шырынёй лісця амаль "на пядзю", гэта каля 15-20 сантыметраў. І ёсць тут "чортаў аткос", "чортава балота" з "чортавым вокам", балота

“бяздонніца”. У тым “чортавым воку” – акне ў дрыгве – мужчыны спрабавалі памераць глыбіню ды так да дна і не дасталі.

## КАРЧМАРОВА ДАЧКА

На раздарожжы паміж лесам і балотам непадалёку ад Пятровічаў стаяла карчма. Валодаў ёй яўрэй Янкель. Работу сваю ён ведаў, ладзіць з людзьмі ўмеў, і таму справы ішлі добра. Жыхары Даравога, Мартулёў, Хрыстова, Латыгаля і іншых вёсак часта наведваліся ў карчму, каб выпіць чарачку, пасядзець, пагаманіць, дазнацца пра навіны ў ваколіцах і ў свеце. Захаджвалі туды і дзецюкі, але не столькі дзеля таго, каб выпіць гарэлкі ды пагуляць, але і падзівіцца з прыгажосці карчмаровай дачкі, якая пачынала ўваходзіць у дзеўкі і распускацца, як кветачка. Некаторыя адчайныя хлопцы ўжо спрабавалі заляцацца да яе, але бацька быў пільны і хутка гасіў жар маладой крыві.

І вось аднойчы на тую мясцовасць наляцела бура. Невялічкае воблачка літаральна на вачах ператварылася ў чорную змрочную хмару, якая пачварнай плямай пачала закрываць небасхіл. Узняўся вецер, упалі першыя буйныя кроплі дажджу. Юная карчмарка выбегла на двор, каб зняць з вяроўкі бялізну, і тут раптам узняўся такі віхор, што закруціў у вірлівым слупе пясок, трэскі, транты і дзяўчыну. Імгненне – і нічога гэтага не стала. Прайшоў невялікі дождж – і хмара пачала хутка знікаць.



Карчмарова дачка
Мал. Г. Пракаповіч

Карчмар, які бачыў гэта ўсё праз вакно, збялеў ад роспачы, кінуўся на панадворак, пачаў крычаць, гукаць дачку. У адказ яму дзесьці ў лесе смяялася рэха. Наведвальнікі пачалі супакойваць, суцяшаць Янкеля, гаворачы, што дзяўчына жывая, што яе, пэўна, недзе недалёка аднесла ветрам і яна знойдзецца. Але карчмар толькі хістаў галавой і шаптаў: “Гэта нячыстая сіла… Гэта нячыстая сіла…” А потым звярнуўся да ўсіх: ”Знайдзіце маю дачку. Жывую ці мёртвую. Аддзячу. Усім, што маю, аддзячу. Карміць і паіць буду дарма ўвесь час, колькі жыць буду…”

Вестка пра тое, што нячыстая сіла выкрала карчмарову дачку-прагажуню хутка разнеслася па вакольных вёсках. Два дні шукалі па лясах, хмызах і балотах людзі дзяўчыну. І – о дзіва! – знайшлі! У самым топкім балоце, якое і назву страшную мае – Душагубіца, адзін селянін пачуў слабыя крыкі. Паспяшаўшыся туды, ён убачыў дзяўчыну, якая па грудзі была ў дрыгве і якую марудна і няўмольна засмоктвала багна. Карчмарова дачка з апошніх сіл трымалася за маленькую крывую сасонку, якая яе і ўратавала.

Той селянін выцягнуў дзяўчыну з балота і прывёў да Янкеля. Можна ўявіць, як радаваўся гэтаму шчаслівы бацька. І ад свайго абяцання ён не адмовіўся: даў селяніну золата і ўвесь час, колькі жыў, паіў і карміў таго чалавека ў сваёй карчме.

## ПАГУЛЯЎ У КАРТЫ З НЕЗНАЁМЦАМІ

Даўней на беразе невялікага возера каля вёскі Палессе ляжаў агромісты камень. Называлі яго людзі Чортавым, бо, як расказваюць, на гэтым валуне па начах чэрці гулялі ў карты. Праўда ці не, а некаторыя запозненыя падарожнікі сцвярджаюць, што ўначы часта даводзілася чуць з боку возера якуюсь незразумелую гамонку, рогат, свіст, а то і бліскание нейкіх блакітных агеньчыкаў.

А аднойчы на гэтым месцы адбыўся вось які выпадак. Неяк увечары, калі ўжо ладна сцямнела, ішоў адзін хлопец з Палесся ў суседнія Пятруці. І раптам бачыць: насустрач яму крочыць незнаёмец – у касцюмчыку, пад капялюшыкам, з лясачкай. На шляхцюка падобны. Павітаўшыся, адразу прапанаваў згуляць у карты з яго сябрамі. Хлопец пачаў аднеквацца, адпірацца, спасылаючыся на тое, што не мае грошай. Тады незнаёмец прапанаваў пазычыць і насыпаў дзецюку ў далонь жменю залатых манет. Бліснулі яны заваблівa ў цьмяным святле месяца, закружылася галава ў хлопца – і ён згадзіўся. Павёў тады яго незнаёмец на бераг возера. А там ужо гарэла блакітнае вогнішча, і на Чортавым камяні, каля якога сядзелі гэткія ж самыя два "іншаземцы", ляжалі раскладзеныя карты і копы залатых манет. Ад іх бляску ў хлопца яшчэ больш памуцілася ў галаве.

Зрабілі стаўкі і пачалі гуляць. Спачатку дзецюку вельмі шанцавала, карта ішла адна ў адну, гара грошай каля яго ўсё павялічвалася. Але потым раптам удача адвярну-

лася ад яго: ён прайграў усе залатыя манеты, а потым і сваю вопратку, якую таксама паставіў на кон. І калі ўжо нічога не засталося, нібы скрозь сон пачуў ад аднаго з “карцёжнікаў”: “Ну, а цяпер за наша золата закладай сваю душу…” Хацеў ужо хлопец пагадзіцца, ды якраз у гэты час у Пятруцях заспяваў першы певень. І нібы туман зляцеў з яго вачэй. Агледзеўся вакол, глянуў на сябе… Адзін толькі крыжык застаўся на целе. Сціснуў ён тады гэты крыжык рукой і давай хрысціцца-маліцца, прасіць паратунку ў Бога. У адно імгненне, як ашпараныя, адскочылі ад каменя незнаёмцы і ператварыліся адразу ў чарцей. Закрычалі, зараўлі яны, пачалі нячыстую сілу склікаць. І наляцела з усіх бакоў ці то варання, ці то мышэй лятучых, і напалі яны на хлопца. Той адной рукой з усяе моцы адбіваўся ад нячысцікаў, а другой моцна сціскаў крыжык, бо разумеў, што без яго загіне. І калі сілы яго ўжо былі на зыходзе, у Пятруцях праспяваў другі певень. І ўсе нячысцікі ўмомант зніклі. Неба стала святлець, і хлопец зразумеў, што ўратаваўся. Агледзеўся ён і ўбачыў, што на Чортавым камені ляжыць стос лазовых лісточкаў і тры горачкі рознакаляровых каменьчыкаў…

## БАРАНЧЫК З ЧОРТАВАЙ ПЕЧЫ

Даўней з Лугоў на Лучай можна было хутка дабрацца напрасткі праз лес. Тады тут была нядрэнная дарога і шмат хто з Сяргеевічаў, Зарэжжа, Краснянаў ездзіў па ёй да касцёла ці на фэст. Але зараз яна закінута, зарасла і карыстаюцца ёй хіба паляўнічыя ды грыбнікі. А чаму?

Можа, час змяніўся, а мо і чорт падстроіў. Жыве тут адзін недалёка ад Лугоў ва ўрочышчы Гараватка. Ёсць там вялікі-вялікі камень, “Чортава печ” называецца. Дык, вось, нячысцік, пэўна, там і жыве. Бачылі здалёк, як каля таго каменя часам агонь скача і дым ідзе. Асабліва часта па вечарах пасля дажджу. Кажуць, чорт печ цепліць, скарбы свае сушыць.

Ён можа скідвацца ў розных звяроў і птушак, а то і карчом у лесе стаіцца. Бачылі неаднойчы, як на той камень крумкач садзіўся ды каля яго баранчык белы пасвіўся.

А з тым баранчыкам дык вось якая гісторыя ўчынілася. Ехаў неяк асеннім вечарам наш мужык з лучайскага кірмашу. Выгадна жыта прадаў, купіў сёе-тое, чарачку ў карчме выпіў, таму і настрой меў добры. І ўжо пад’язджаючы да Гараваткі, бачыць:  ля дарогі баранчык стаіць. Невялічкі такі, беленькі, толькі мокры ўвесь. Паглядзеў той сумна на чалавека і жаласліва зацягнуў: “Бэ-э-э, бэ-э-э…”

Шкода стала мужыку таго баранчыка. “Вазьму, – думае, – з сабою, а то ж з’ядуць яго тут ваўкі”. Злез чалавек з воза, узяў баранчыка на рукі, ну і ехаць далей. А коні хрыпяць, азіраюцца, ледзь-ледзь воз з месца скранулі. А мужык пасадзіў баранчыка на калені, прыкрыў крысом сваёй світкі, гладзіць яго і прыгаворвае: “”Бяша, бяша…” Той ад цяпла чалавечага абсох і стаў расці як на дражджах. А коні – у пене, хрыпяць, напінаюцца, ледзь воз цягнуць. Неўзабаве і вёска паказалася, а на ўездзе – крыж-абярог. Як убачыў той баран крыж, то затросся ўвесь і скочыў на дарогу. Мужык памкнуўся было за ім, а той яму чалавечым голасам, як бы перадражніваючы:

“Бяша…, бяша… Дурань ты!” Пасля гэтага падскочыў той баран уверх, бухнуўся на зямлю і прапаў. Ну а мужык той ледзь дадому дабраўся, саслабеў зусім. Потым хварэў доўга, бо частку сілы чорт з сабою забраў.

## ПАІГРАЎ НА ВЯСЕЛЛІ

На ўскрайку Лынтупаў каля курганоў ляжыць Чортаў камень. У ім жыве нячысцік, які строіць людзям розныя пусткі.

Вось вяртаўся неяк раз адзін лынтупскі музыка дамоў з суседняй вёскі, у якой іграў вяселле. Нёс з сабой гармонік. Быў прытомлены, бо колькі дзён іграў танцы і маршы.

Ішоў ён ішоў і выйшаў да таго каменя. А ўжо добра такі сцямнелася. І нешта так музыку размарыла, так захацелася адпачыць, што ён сеў на траву, абапёрся спіной аб камень і заплюшчыў вочы. Не прайшло, здаецца, і хвіліны, як адчуў, што будзіць яго нехта, тузгае за плячо. Раплюшчыў мужык вочы, глядзіць: аж перад ім нейкі невядомы гжэчны шляхцюк стаіць. У капялюшыку, чорным касцюмчыку, з адмысловай пугай у руцэ. Не бачыў музыка такога на вяселлі – там былі толькі простыя сяляне.

Працёр мужык вочы, а шляхцюк і кажа:

– І што ты тут разлёгся ля маёй хаты? Чаму не іграеш?

Агледзеўся мужык вакол – няма ніякай хаты, толькі камень, паляна ды рэдкія дрэвы, што асветлены месячным святлом.

– Наіграўся, – кажа, – на вяселлі. Вось, паночку, прысеў адпачыць.

– Дык ты, хамло, халопам іграеш, а мяне ўважыць не хочаш!? Зараз і мы вяселле наладзім. Будзем вужа з жабай жаніць. Іграй!

Сказаўшы гэта, шляхцюк так сцебануў мужыка пугай па спіне, што аж кроў выступіла. Спужаўся музыка, падхапіў гармонік ды давай іграць. Як толькі расцягнуў мяхі, то адразу вакол загуло, зашалясцела, зашыпела, заквакала. Глядзіць: аж з усіх бакоў на паляну перад каменем выпаўзаюць розныя гады, скачуць вялікія і малыя жабы, злятаюцца агромістыя жукі, матылі ды лятучыя мышы.

Жуда перапоўніла сэрца музыкі. Ён заплюшчыў вочы, каб не бачыць гэтых пачвар, і пачаў іграць як мага мацней, каб не чуць шыпення ды квакання. Так і адыграў, баючыся глянуць на тых, хто скакаў пад яго музыку, аж да раніцы. Толькі калі ў Лынтупах заспявалі пеўні, мужык адчуў, што на паляне сцішылася. Ён расплюшчыў вочы і агледзеўся. Над палянай плыў туман, пакрываючы буйнымі кроплямі расы стаптаную, здратаваную траву. “Можа, гэта быў сон?” – падумаў мужык. Але тут моцна засмылела спіна і ў вочы кінулася пуга, якую нехта акуратна прыставіў да каменя.

Зразумеўшы, што гэта быў не сон, музыка што было сілы пабег дадому, залез на печ і сядзеў там мо з тыдзень, пакуль не адышоў ад таго страшнага вяселля.

## ВЫЧАРЭБУНА

Паміж Задзеўем і Дукамі разляглося не вельмі вялікае, але змрочнае і дзікае балота. Завуць яго Вычарэбуна.

А чаму так, дык ніхто і не ведае. Часцей у размовах называюць яго Чортавым, ці Казлюковым. І ёсць за што. Там сапраўды, мусіць, водзяцца нячысцікі. Усё яно спрэс зарасло лазой – любімым чортавым кустоўем, а сярод гэтага хмызняку трапляюцца багністыя вокны, у якія калі ўшугнеш, то і дна не дастанеш. Бывае, тыя нячысцікі каля балота ігрышчы свае спраўляюць. Ці то чорта жэняць, ці то ведзьму замуж аддаюць. Тады чуецца адтуль свіст, рогат, музыка, скокі ды авечае бляянне. А назаўтра, як паглядзіш на траву ды на ніву пры тым балоце, дык плакаць хочацца: усё здратавана, збіта, павалена-пакручана.

А людзі жылі ў суседніх вёсках, прыцярпеліся, прызвычаіліся. Днём хадзілі праз балота смела: пратапталі сцежку напрасткі з Задзеўя на Дукі, а вось увечары ці ноччу стараліся гэта змрочнае месца абыходзіць. Ну а калі даводзілася ісці праз хмызняк у прыцемках, то вешалі сабе на шыю на вяровачцы зубок часнаку, і гэта ратавала, бо нячысцікі моцна не любяць паху гэтай расліны. А пра тое, што балота заселена імі, сведчыць вялізны камень, на якім выбіта чортаў капыт.

З кожным годам людзей у вёсках становіцца ўсё меней, і "чортавы гісторыі" згадваюцца радзей і радзей. Можа, пра іх бы і зусім забыліся, ды параўнальна нядаўна напомнілі нячысцікі пра сябе.

Напрыканцы жніўня 1997 года я познім вечарам вярталася ад сяброўкі з вёскі Дукі дамоў. Каб скараціць дарогу, вырашыла ісці па сцежцы праз Чортава балота. Вечар быў ціхі, неба зорнае, за возерам Задзеўскім яркімі агнямі свяціліся Паставы. Якія могуць быць нячысцікі,

калі цывілізацыя зусім побач? Так і пайшла па сцежцы з гары ўніз да балота. А як патрапіла ў кустоўе, то куды толькі ўвесь свет дзеўся? Ні зорак, ні святла… Туман… Вакол шэрая сцяна лазы… Іду пяць, дзесяць, пятнаццаць хвілін і не магу нікуды выйсці. Вакол мяне кусты, а перада мной – усё тая ж сцежка. Пачала бегчы, крычаць. У адказ – нейкае булькание ды рогат. Блукала па тым балоце ўсю ноч. Ведала быццам бы, куды ісці, а ніяк не магла выбіцца з таго балота. Добра, што летняя ночка кароткая. На світанні ўбачыла, што каторы ўжо раз хаджу вакол Чортава каменя. А вось як туды патрапіла, так і не зразумела. Патрэбная сцежка пралягала крыху збоку. Як я з яе сышла, таксама не разумею. Добра, што не ўлезла ў балота... Мо дапамог часнок, які мела з сабою.

Калі ж прыйшла дамоў, то не мела ні сілы, ні слоў, каб расказаць пра тое, што здарылася са мной у тую страшную ноч.

Цяпер тая сцежка зусім зарастае, бо каму ж ахвота мець непрыемнае знаёмства з начысцікамі?

## ЛЫСАЯ ГАРА

За Шыркамі пры дарозе на Дварчаны бачны высокі ўзгорак амаль правільнай круглай формы. Называюць яго “Лысая гара”, бо і на вяршыні, і схілах дрэвы не растуць, а толькі рэдкая трава. З аднаго боку ўзгорак падмываецца ракой Спарыцай, а з другіх бакоў працягнулася зарослае балота. Каля гэтай гары даўным-даўно жылі людзі. Пра існаванне тут старажытнага паселішча сведчыць тоўсты

слой чорнай зямлі, рэшткі костак і керамічнага посуду.

Гара мае і іншую назву – Чортава гара, як і мост цераз раку Спарыца, які таксама называюць Чортавым. Паводле падання, на Лысай гары жыў чорт, а на мосце ён ладзіў свае “чортавы забавы”. Да нядаўняга часу, пакуль мост быў драўляным, на ім нечакана правальваліся вазы, жывёла, тэхніка. У вайну ў багне патануў танк. Часцяком знікалі людзі.

Паводле іншага падання, на Лысай гары на свой шабаш у адну з цёмных восеньскіх начэй злятаецца нячыстая сіла, і тады там бліскаюць агні, чуваць нечалавечы рогат, свіст і музыка.

Лысая гара мае статус рэспубліканскага ландшафтнага геамарфалагічнага заказніка.

## ЗАЛАТОЕ ЯГНЯ

Каля вёскі Мікулкі недалёка ад Саранчанскага возера ляжаў Чортаў камень. Старажылы расказваюць, што пад ім закапана карэта з золатам, якую пільнуе нячысцік. Падарожныя людзі не адзін раз бачылі, як з-пад валуна выскоквала белае ягня, ад якога разыходзілася залатое ззянне. Калі ж да яго набліжаліся, то яно паступова цямнела і, урэшце, станавілася зусім чорным. Коні, убачыўшы тое ягня, пужаліся, білі капытамі, станавіліся на дыбы. А бывала, пераварочвалі вазы, ламалі аглоблі, рвалі пастромкі. Відаць, моцная нячыстая сіла пільнуе той скарб.

## ЗАЧАРАВАНЫЯ КОНІ



«Зачараваныя коні»
Мал. Г. Пракаповіч

Паміж вёскамі Куніцкія і Бартасоўшчына ляжыць таямнічая мясціна, дзе з людзьмі часта адбываюцца розныя нечаканыя здарэнні. Калі ідзеш полем, то нічога, усё як і заўсёды, а вось як увойдзеш у лясок і дарожка пачынае пятляць паміж узгоркаў, лагчын і балотцаў, то ўжо так і чакай, што нешта здарыцца. Найчасцей трапляюцца тут падарожнікам коні. Прыгожыя і дагледжаныя, з’яўляюцца яны ціха і нечакана з-за павароту, падыходзяць блізка, махаюць густымі грывамі і хвастамі, разварочваюцца, лёгка бягуць наперад, спыняюцца, чакаюць, тады зноў імкнуцца кудысьці. Яны такія прыгожыя і, здаецца, прыручаныя, што міжволі, зачараваны і заваблены, ідзеш за імі, зусім не заўважаючы, куды вядуць цябе гэтыя коні. І так бывае, што ўвесь вечар, а то і ўсю ноч ходзіць чалавек за тымі коньмі, спрабуе іх злавіць, а ніяк гэта не ўдаецца.

Толькі потым, як ачомаецца, як знікнуць тыя коні, пачынае падарожнік блукаць, блудзіць, шукаць выйсце з лесу. Бывае, што кружыць на адным месцы, а не заўважае таго. А калі ж выйдзе з лесу і вернецца дамоў, то яшчэ колькі часу не можа ўсвядоміць дзе ён і што з ім. Ходзіць нібы хворы, часта забываецца на ўсё, а то ўпадае ў нерухомую задуменнасць. Стаяць у чалавека прад вачыма тыя коні. Вабяць, завуць за сабой… Куды?...

## АХВЯРА ВОЗЕРА ВАРАНЕЦ

У даўнія часы паміж азёрамі Доўжа і Варанец на высокім узгорку стаяў прыгожы сядзібны дом пана Фурса. Маляўнічая мясцовасць, незвычайная пекната краявідаў вабілі сюды многіх аматараў адпачынку ва ўлонні прыроды.

У маёнтак Фурса часта наведваліся госці. Аднойчы да яго прыехалі сваякі-маладажоны, каб у цішы і водары хвой і лясных траў правесці ў мілосці і каханні свой мядовы месяц.

Стаялі пагодныя ласкавыя дні, якія абвастралі пачуцці і дарылі асалоду закаханым. Аднойчы надвячоркам гожая паненка пажадала адна пакатацца на ладдзі па Варанцы. Промні цёплага сонца песцілі яе, абдымалі мякка і пяшчотна, нібы каханы. Сэрца напаўнялася пачуццём радасці ад тых шчаслівых імгненняў, якія дарыла ёй жыццё. Лёгкі, амаль няўлоўны, ветрык павольна адганяў ладдзю на сярэдзіну возера. І раптам…

Нібы нейкая вялізная рыбіна павяла хвастом дзесьці глыбока-глыбока на дне – і вада нечакана зварухнулася,

пацякла і пачала павольна, але няўмольна закручвацца ў вір. Маленькая лодачка, як лёгкая шкарлупка, пачала рухацца ўсё хутчэй і хутчэй у той варонцы і праз некалькі імгненняў панырнула ў яе нетры. Паспела тады яшчэ паненка спуджана ўскрыкнуць, але вялікая хваля, як агромістая пачвара, паглынула яе.

Праз колькі хвілін на роўнай паверхні возера сіратліва і адзінока калыхалася пустая перакуленая лодка. Яе і ўбачылі гаспадар сядзібы і закаханы паніч, калі прыйшлі на бераг Варанца. І яны зразумелі, што адбылася трагедыя. Па загадзе пана былі пакліканы сяляне з бліжэйшых вёсак, якія хто баграмі, хто вяроўкамі, хто якарамі з лодак спрабавалі выцягнуць з вады цела паненкі. Але возера вельмі глыбокае, на сярэдзіне бездань такая, што не хапіла звязаных вяровак, каб дастаць да дна. Так і не аддало тады возера цела той прыгожай паненкі.

Але муж не мог паверыць, што страціў сваю каханую: ён рабіў усе магчымыя спробы, каб знайсці яе. З Італіі былі выпісаны нырцы-вадалазы, але і тыя, абгледзеўшы ўсе мелкаводдзі, на сярэдзіне да дна так і не дасталі. Тады возера перагарадзілі насыпам і паспрабавалі адкачаць ваду магутным насосам. Але і гэта не прынесла выніку: узровень вады ў возеры паменшыўся не больш, чым на паўметра.

Урэшце, патраціўшы ўсе свае грошы на пашуковыя работы, паніч разарыўся. Не саўладаўшы са сваім горам, у роспачы ён застрэліўся. У пасмяротнай запісцы паніч прасіў пахаваць яго на дне возера, што і было зроблена.

Таму і зараз дзесьці на самай глыбіні возера Варанец спачываюць закаханыя маладажоны. А бывае, месячнай

ноччу, калі воблакі туманоў плывуць ад вады на берагі, бачаць людзі, як брыдуць па беразе, узяўшыся за рукі, дзве белыя расплывістыя постаці. І хай толькі скажа хто ці запытае, як страпянуцца яны, кінуцца да вады – і нейкая вялізная рыбіна моцна ўдарыць хвастом, а ад гэтага ўдару тужлівае рэха паляціць над ваколіцамі ды трывожна закалышуцца хвалі на азёрнай гладзі…

## ВАНДАВА БАЛОТА

У глыбіні Манькаўскага лесу ёсць глухое і дзікае Вандава балота. Сярод моху і камлёў памерлых дрэў блішчаць змрочныя акенцы бяздоннай твані. Таямнічая цішыня ахутвае балота і хавае ў невядомасці тое, што было тут калісьці… Не раскажуць нічога і два вялікія падоўжаныя валуны, што, нахіліўшыся адзін да аднаго, стаяць на краі таго багністага месца. Тыя камяні людзі называюць Ванда і Трахім і расказваюць пра іх наступную легенду.

Жыла ў адным з мясцовых маёнткаў прыгажуня-паненка Ванда, якой спадабаўся вясковы хлопец Трахім. І ён з дзяўчыны вачэй не зводзіў. Закахаліся яны, злюбіліся. Пачалі сустракацца. Але даведаліся пра гэта бацькі Ванды і абразіліся-раз'юшыліся: ды хіба магчыма такое, каб шляхцянка-каталічка ды з селянінам-праваслаўным каханнем бавіліся. Забаранілі дачцэ з хлопцам сустракацца, пачалі шукаць зяця сярод шляхцюкоў-суседзяў. Нагледзелі недзе за Паставамі дзецюка, хай сабе і ўдвая старэйшага, але ж пры грашах. Пачалі да вяселля рыхтавацца.

А дзяўчына ад роспачы не ведала што рабіць. Урэшце,

надумалася: як не з каханым, то ні з кім. І аднойчы збегла яна з дому і падалася ў лес. Блукала яна блукала там і зусім з сіл выбілася. Ужо і шкадаваць пачала, што родную хату пакінула. Але тут раптам бачыць: ідзе па лесе ў прыгожым зеленавата-балотным убранні жанчына.

Узрадавалася Ванда, падбегла да незнаёмкі, пачала прасіць, каб дапамагла тая з пушчы выбрацца. А жанчына толькі і сказала: "Добра. Ідзі за мной і не бойся" – і, не аглядаючыся, пайшла. Павесялелая дзяўчына рушыла за ёй. Але чым далей ішла, тым трывожней станавілася на душы. Стромкія сосны змяніліся густымі змрочнымі ялінамі, пад нагамі пачала хлюпаць вада, паветра напоўніў балотны дурман. Жах апанаваў дзяўчыну. "Я баюся!" – закрычала яна. На гэты крык жанчына рэзка абярнулася. І Ванда ў роспачы закрычала яшчэ мацней. Перад ёй стаяла старая ведзьма. Яе зморшчаны твар, халодныя вочы, крывы нос выклікалі агіду. Ведзьма засмяялася. Яе смех быў падобны да карканне вароны. "Усё, дзяўчына, прыйшла. Будзеш стаяць каменем і ахоўваць маё балота," – пракаркала яна. І Ванда скамянела.

Назаўтра па загадзе пана людзі суседніх вёсак пайшлі ў лес шукаць паненку. Разам з іншымі, прыгнечаны і няшчасны, блукаў па пушчы Трахім, шукаючы між дрэў і кустоўя сваю каханую. І завялі яго ногі ў такую нетру, дзе сам ні разу не бываў. Стаміўся, прысеў на паваленае дрэва адпачыць. І раптам бачыць: ідзе да яго прыгожая, у зялёна-балотным убранні жанчына. Хто такая? Адкуль? Хлопец нічога не мог зразумець. А яна падышла і кажа: "Ты шукаеш сваю дзяўчыну? Ідзі за мной і не бойся.

Я завяду цябе да яе”. Праз хмызы і густы змрочны ельнік пайшоў Трахім за жанчынай. Праз некаторы час над нагамі захлюпала вада, паветра напоўнілася багністымі выпарэннямі. Яны падышлі да вялікага каменя. Жанчына абярнулася. Трахім ускрыкнуў ад нечаканай перамены: перад ім стаяла ведзьма. Яна засмяялася і пракаркала: “Вось твая дзяўчына. Цяпер вы будзеце заўсёды разам. І будзеце вартаваць маё балота…” Пасля гэтых слоў праз некалькі імгненняў каля валуна з’явіўся яшчэ адзін, вышэйшы, валун.

З таго часу стаяць на краі Вандава балота два валуны Ванда і Трахім, а ў Ведзьміным ручаі, бывае, купаецца ў месячныя ночы тая самая ведзьма…

## ПРА ЛАСІЦКІ ПАЛАЦ

Той, каму даводзілася бываць на беразе Ласіцкага возера, адчуваў, напэўна, у сваёй душы трывогу, трымценне, жаль, якім, здаецца, перапоўнена тутэйшая прастора. Неяк млосна робіцца чалавеку, няўтульна. Хоць і возера з выгляду прыгожае, і берагі даволі прывабныя, але нейкай неўладкаванасцю, зацятай таямнічасцю павявае ад азёрнай расліннасці і хмызоў, што абхапілі азярцо, сціснулі яго шэра-зялёным колам. І ні будана, ні хаты на яго берагах няма: не захацелі тут людзі будавацца. Чаму? Ды ёсць прычына. Няўтульнае гэтае месца, трывожнае. Кажуць, што і цяпер, бывае, пойдзе хто адзін да возера… Ідзе сабе, ідзе, але раптам адчуе, што хтосьці быццам бы прыспешвае ззаду. Азірнецца чалавек – і ўбачыць чорную

маладую дзяўчыну. І не паспее ён яе добра разглядзець, як пачынае тая блякнуць, размывацца і, урэшце, сплывае воблакам уніз да Ласіцкага возера. І кідаецца тады чалавек назад наўцёкі, і маўчыць, нікому стараецца не расказваць пра гэта, бо ж засмяюць. Маўляў, людзі ў космас лётаюць, а тут – прывіды…

Але слабы смех… Нешта ўсё ж не тое робіцца ў гэтай мясціне. А старэйшыя жыхары вёскі прыгадваюць даўняе паданне, якое не толькі не супакойвае, але яшчэ больш наганяе няўпэўненасці і трывогі.



Ласіцкі палац
Мал. К. Дунец

Калісьці даўно на беразе возера стаяў прыгожы панскі палац з калонамі і тэрасай, якая вяла да самай вады. На тым месцы і зараз узвышаецца ладны ўзгорак, які парос высокай травой і здзічэлымі дрэвамі. Дык вось, у тым палацы жыў багаты і заможны пан. І меў ён прыгожую дачку – дзяўчыну з чыстай душой і адкрытым сэрцам. Яна вельмі любіла сваю

родную мясціну, часта гуляла каля возера, сярод траў і садовых дрэў. Яна ведала амаль усе кветкі, пазнавала па спевах птушак, умела чытаць сляды звяроў. І вучылася дзяўчына не толькі ў прыроды, але і ў настаўніка, якога бацька спецыяльна для дачкі выпісаў з Францыі.

У пана справы ішлі добра, і ён цешыўся з жыцця і са сваёй дачушкі-прыгажуні.

Але аднойчы позним восеньскім вечарам, калі на вуліцы ліў дождж і вецер ламаў дрэвы, у дзверы палаца пагрукаў нейкі падарожны чалавек і папрасіўся абагрэцца і крыху абсушыцца. Шчыры гаспадар, да якога рэдка заязджалі путнікі, бо палац стаяў воддаль ад дарогі, дазволіў вандроўніку не толькі спыніцца, але і пераначаваць. Той з дапамогай панскага лакея завёў пару сваіх вараных коней у стайню, а потым вярнуўся ў палац, дзе яго ўжо чакала вячэра.

Нават у змрочным святле свечак нечаканы госць выглядаў непрывабна, нават агідна: кручкаваты нос, вялікія, амаль круглыя вочы, збітыя ў каўтун валасы… Толькі багатая вопратка ці то французская, ці то італьянская паказвала на яго заможнасць.

Яго з’яўленне адразу ўнесла нейкі разлад у той размераны побыт, які існаваў шмат гадоў на сядзібе. Сабакі ў псярні, якія спачатку злосна брахалі на падарожніка, пачалі, падціснуўшы хвасты, танклява завываць. Кот, што грэўся, як і заўсёды на печы, ускочыў і імкліва сігануў у акно, выбіўшы шыбу і рассыпаўшы шкло ў друз. Салавей, што сядзеў у клетцы, пачаў спужана біцца ў металічныя пруты і ў хуткім часе ўпаў нежывы.

Але гаспадары тады нічога гэтага не заўважылі.

За вячэрай госць шмат расказваў пра свае падарожжы па краінах Еўропы, пры гэтым амаль не зводзячы вачэй з панскай дачкі. Пад яго цяжкім поглядам яна то чырванела, то бялела і, урэшце, адчуўшы сябе кепска, з дазволу бацькі пайшла да сябе ў пакой.

Гаспадар і госць пасядзелі яшчэ крыху, пакаштавалі слаўнага віна з панскай піўніцы і таксама сабраліся ісці спаць. Падарожнік перад тым, як адправіцца ў пакой для гасцей, папярэдзіў, што ён мусіць заўтра рана ад’ехаць. Пан загадаў прыслузе, каб разбудзілі госця да першых пеўняў.

Але на вуліцы па-ранейшаму ішоў залiўны дождж, у палацы было ціха і ўтульна, і лакей праспаў.

Дом абудзіўся ад моцнага грукату. Было такое адчуванне, што з неба сыплецца каменне. Госць мітусліва апранаўся, крычаў на прыслугу, а калі на лямант выбег усхваляваны гаспадар, крыкнуў яму: “Твая дачка будзе маёй жонкай! Праз месяц я прыеду за ёй! Рыхтуй вяселле!”

Выгукнуўшы гэта, госць бегма кінуўся з хаты і знік у патоках дажджу. Гул з неба пачаў сціхаць, а на раніцу спыніўся і дождж.

Дзяўчына праплакала ўсю ноч і ні на хвіліну не заснула: упершыню за ўсё жыццё ёй было страшна ў родным доме. А калі пачула, што гэты пачварны госць захацеў узяць яе за жонку, то самлела ад жалю і агіды.

Пан загадаў лакею ехаць па доктара ў суседнюю вёску. Той кінуўся ў стайню, адчыніў дзверы і ледзь не аслупянеў ад здзіўлення. Там, дзе стаялі вараныя коні начнога госця, ляжалі два вялізныя валуны…

Калі дачка ачуняла, бацька пачаў думаць, што ж рабіць далей. Думкі блыталіся:( яшчэ б!) за некалькі гадзін ледзь не разбурылася шчаслівае і спакойнае жыццё. А што будзе? Як будзе?

Пан паслаў ганца ў вёску Станелевічы па дзяўгуна-вайдэлота – мясцовага жыхара, які валодаў старажытнымі ведамі, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Той прыехаў верхам на кані, прывёз з сабой ягня, асінавы кій і лук са стрэламі. Спачатку дзяўгун пахадзіў вакол хаты, зазірнуў у стайню, прайшоўся па пакоях палаца, увесь час то нешта мацаючы, то прынюхваючыся, то нешта як бы малюючы асінавым кіем. Потым пасярод дварышча расклаў лом. Калі вогнішча разгарэлася, схапіў лук і стэліў чатыры разы: стрэлы паляцелі на ўсе бакі гарызонту. Потым зарэзаў ягня і, кінуўшы яго на палаючыя дровы, пачаў прытанцоўваць і штосьці шаптаць. Гэта відовішча доўжылася ладны час, аж пакуль на месцы вогнішча не засталіся толькі гарачы прысак.

Тое, што паведаў гападару дзяўгун, дадало яшчэ больш суму і трывогі: "Гэта быў моцны чорны вядзьмак. Яму тут спадабалася. Ён сюды вернецца, каб забраць дзяўчыну і ўсё багацце. Выйсце адно – прадаць палац, змяніць знешнасць і з'ехаць у іншыя далёкія краі."

Ад гэтых слоў пан аж анямеў. Кінуць гэты райскі куток? Прадаць палац? З'ехаць у невядомасць?... А можа, начны госць больш не вернецца? Было ж усё добра… А калі вернецца? Што будзе з дзяўчынай?

Доўга думалі-гадалі бацька з дачкой, урэшце вырашылі так: дзяўчына паедзе далёка за мяжу, а бацька

застанецца ў сваім палацы. Залатая каса была абстрыжана, валасы пафарбаваны ў чорны колер, а на левай шчацэ калёным жалезам выпалена невялічкая плямка.

Развітаўся бацька з дачкой у спадзяванні праз некаторы час зноў сустрэцца. Ды не ўдалося гэтаму збыцца…

Роўна праз месяц зноў пайшлі моцныя дажджы, завыў-зароў вецер, і ў дзверы палаца моцна пагрукалі. Лакей не паспеў іх адчыніць, як яны, выбітыя неймавернай сілай, з трэскам разваліліся і ў пакоў уварваўся раз’юшаны чорны вядзьмак.

– Дзе яна? – злосна ці то правыў, ці то прашыпеў ён.

– Няма.. – дрыжучы і плачучы адказаў пан. Ён перавёў погляд з ведзьмака ў акно і аж здрыгануўся ад жаху: там, пад дажджом, асветленая нейкім дзіўным водбліскам месяца, ашчэрыўшы пашчы, стаяла зграя вялікіх ваўкоў…

Нешта незвычайнае пачало рабіцца ў палацы. Нябачныя дзікія сілы пачалі ламаць і крышыць мэблю, вырываць бярвенне са сцен, зрываць страху. Усё гэта, як лёгкія паперкі, адрывалася ад будынка і ляцела далёка-далёка, губляючыся ў начной цемры. На імгненне здалося, што ад прыгожага палаца застанецца толькі каменны падмурак. Але не! Тая ж дзікая сіла вырывала вялікія валуны з зямлі і раскідвала іх, як маленькія каменьчыкі, за дзясяткі кіламетраў ад былога палаца.

Мясцовыя жыхары кажуць, што каля ракі ў вёсцы Хрыстова ляжыць камень з панскага маёнтка. А ён немалы – каля двух метраў даўжыні і шырыні. Крыху меншыя валуны захаваліся каля Ваўкоўскага возера на ўзгорку пад назвай Хабень, за вёскай Ваўкі ва ўрочышчы Цюханка і шмат дзе яшчэ.

Цяпер зразумела, чаму так няўтульна і трывожна на беразе таго возера Ласіца. І што гэта за чорная маладая дзяўчына, што з’яўляецца, бывае, на яго берагах…

Даўняя страшная гісторыя пра тое, як каля Ласіцкага возера чорны вядзьмак разбурыў панскі палац, паступова забывалася. Месца, дзе стаяў той будынак, зарасло травой ды хмызамі. І хоць вакольныя краявіды вабілі сваёй прыгажосцю, ніхто з мясцовых жыхароў не адважыўся паставіць там сваю хаціну.

А ў канцы XIX стагоддзя рускі памешчык Якаў Малчанаў упадабаў тутэйшыя мясціны, купіў зямлю і паставіў каля возера невялікі маёнтак. Жыхары суседніх вёсак у размовах часта гаварылі пра тое, што нячыстая сіла не дасць спакою гаспадару, павінна паказаць сваю моц. Але час мінаў, і нічога страшнага ў маёнтку Малчанава не адбывалася. Відаць, забаялася тая нячыстая сіла прыгожай царквы, што была збудавана на ўзгорку ў вёсцы Ласіца. Яе залатыя крыжы далёка пускаюць свае прамяні, іх відаць і на Ласіцкім возеры.

Жанаты Малчанаў быў на Марыі Дмухоўскай – жанчыне вельмі прыгожай, шляхетнай. Пазнаёміліся яны выпадкова ў цягніку і адразу патрапілі ў полымя гарачага кахання. Марыя была ўжо ўдавой, мела дачку, якая жыла ў Варшаве. Была каталіцкага веравызнання, але шлюб з Малчанавым замацавала ў Ласіцкай царкве.

“Пры Польшчы” быў выпадак, калі Малчанаў ледзь не стаў жабраком. Знайшоўся невядома адкуль чалавек (мо той самы вядзьмак), які падрабіў дакументы на маёнтак і ўжо прадаў яго за мяжу. Падман выкрыўся зусім выпад-

кова, калі гэты прахадзімец зайшоў у гміну, каб канчаткова перааформіць дакументы. Але, кажуць, арыштаваць яго не ўдалося – уцёк, і яго больш ніхто нідзе не бачыў.

У 1939 годзе з прыходам савецкай улады чырвонаармейцы і мясцовыя сяляне разрабавалі палац Малчанава. Самога ж гаспадара ледзь не ўтапілі. Мясцовы жыхар, бядняк Сафрон Татун, накінуў на Малчанава аброць і, як быдла,  пацягнуў да возера. Але знайшліся ўсё ж людзі, якія не далі ўчаніць самасуд, заступіліся за гаспадара маёнтка.

Але той маёнтак усё ж не датрываў да сённяшняга дня. У час вайны партызаны разрабавалі яго і спалілі. Цяпер на тым месцы зноў растуць травы і хмызы, а ля возера часта перакочваюцца воблакі туману…

## ГІСТОРЫІ ПРА ПАНА ХОМСКАГА

Ва ўсходняй Пастаўшчыне каля возера Колаўскага зарастаюць травой падмуркі былога сядзібнага дома. Калісьці тутэйшым маёнткам і вакольнымі землямі валодаў пан Хомскі, пра якога ў народнай памяці захавалася некалькі цікавых гісторый.

### Дарагая дзсятка

Аднойчы ў Надазер’е, маёнтак Хомскага, заехаў граф Пшаздзецкі, які валодаў Варапаевам. Быццам па справе, але больш для таго, каб пагуляць з гаспадаром у карты. Любілі яны гэты занятак. Гулялі на грошы, але стаўкі былі невялікія, сімвалічныя. Так атрымалася,

што са стала звалілася дзесяць рублёў. Граф Пшаздзецкі нахіліўся і пачаў навобмацак шукаць грошы на падлозе. Пан жа Хомскі дастаў з партмане 500-рублёвую банкноту, запаліў яе і пачаў свяціць, дапамагаючы графу шукаць дзясятку.

Што ж, можна пашкадаваць Хомскага: у яго не было ні паперы, ні драбнейшых грошай. Але колькі ж гонару!

## З’ядлы сабака

Аднойчы да Хомскага на паляванне прыехаў пан з маёнтка Латыгаль, бо пачуў ён, што ў гаспадара Надазер’я дужа добрыя сабакі. Пахадзілі яны, паблукалі па тамтэйшых ваколіцах, упалявалі двух зайцоў і лісу. Сабакі не падвялі, з’ядла гналі звера, чым і ўлагодзілі латыгальскага пана. Упадабаў ён аднаго ганчака, пачаў прасіць Хомскага, каб прадаў яго. Але той упёрся: “За грошы не прадам”. Пачалі гандлявацца. Урэшце, дамовіліся на абмен. За сабаку пан з Латыгаля аддаў Хомскаму усю сям’ю Шамовічаў. Што ж, мусіць, яны не ўмелі так з’ядла гнаць звера, як той сабака…

## Дзіўная забава

Маёнтак Хомскага стаяў далёка ад павятовых і губернскіх гарадоў, у правінцыйнай глушы, дзе магчымасцяў для пацехі і вясёлага баўлення часу было мала. Таму і прыдумаў ён сабе адну дзіўную забаву.

Недалёка ад яго сядзібнага дома цягнулася доўгая і даволі высокая града, якая заканчвалася гарой Замак. Ад яе ўніз ішоў стромкі спуск. Дык вось, Хомскі запра-

шаў якога-небудзь селяніна на тую гару, ставіў спіной да абрыва і потым рэзка піхаў у грудзі. Чалавек падаў на спіну і кубарам каціўся да падножжа Замка. Хомскі ж, гледзячы на гэта, гучна рагатаў і весяліўся, як малы. Калі селянін падымаўся на вяршыню, пан даваў яму дзесяць рублёў, а потым зноў піхаў у грудзі. Вось такая забава. Пану – весялосць, мужыку – грошы.

## Дуб кары

На ўзвышаным беразе Колаўскага возера расце магутны разгалісты дуб. Гадоў яму трыста, а мо і болей. Непрыемныя ўспаміны і ўражанні выклікала гэта дрэва ў людзей, якія жылі ў тутэйшай мясцовасці ў даўнейшыя часы. Часта адсюль даносіліся чалавечыя крыкі і стогны. Магутнае дрэва мае ўласную назву “Дуб кары”. І звязана яна з уладальнікамі Надазер’я панамі Хомскімі. Хтосьці з іх роду вызначаўся тым, што дужа жорстка адносіўся да сваіх прыгонных сялян. За любую малую правіннасць работнік атрымліваў ад пана “ўзнагароду” – колькінасце дубцоў па мяккім месцы. І ішоў тады селянін да дуба кары, дзе меўся адмысловы памост, лажыўся, скідваў порткі, і спецыяльна прыстаўлены кат пачынаў экзекуцыю. Вось і разлятаўся тады па ваколіцах свіст дубцоў, крык і стогны пакутнікаў…

## «Паддзежыў як Янкель Хомскага»

Гэта выслоўе даволі шырока бытавала раней на Варапаеўшчыне. А нарадзілася яно з адной праўдзівай жыццёвай гісторыі. Пану Хомскаму, які любіў ліха пагуляць і

павесяліцца, паказваючы суседзям, які ён багаты, на самой справе бывала тугавата з фінансамі. Маёнтак даваў нестабільны даход, а расходы меліся вялікія. Таму час ад часу ён пазычаў грошы ў яўрэя Янкеля, які трымаў карчму на раздарожжы каля Пятровічаў. Даючы пазыку, карчмар браў з Хомскага вексель. І цягнулася гэта даволі доўга. Але ў адзін прыгожы дзень Янкель са сведкамі прыехаў да пана і запатрабаваў вярнуць даўгі. Маўляў, прыйшоў час плаціць па вексэлях. Даўгоў набралася столькі, колькі каштаваў увесь маёнтак Надазер'е. Хомскі зразумеў, што ён разарыўся. Плачучы, ён загадаў кухарцы пашыць торбачку, насыпаў туды жменю роднай зямлі і падаўся пехатой да брата ў Вільню. А гаспадаром маёнтка стаў Янкель. Вось такая гісторыя.

## ЛІСТОЎНІЦА НА ХАТУ

Задумаўшы пабудаваць сабе рэзідэнцыю ў маляўнічай узгорыстай мясцовасці сярод шматлікіх азёр у Вялікіх Спорах, пані Бажэчкова пачала распытвацца пра матэрыялы на будоўлю. Для гэтага яна з'ездзіла ў госці ў Каралінова да пані Рамэровай, дзе агледзела старую, але трывалую і зграбную драўляную сядзібу, якую ў канцы XIX стагоддзя збудавалі па праекце гаспадара маёнтка, вядомага мастака Альфрэда Ромэра. Пазней яна наведала палац Канткоўскіх у Саранчанах, які меў узрост каля 250 гадоў і быў узведзены з лістоўніцы, якую для трываласці вымочвалі ў кіпячай смале.

Пані Бажэчковай прыйшліся даспадобы рэзідэнцыі суседзяў, і яна загадала, каб і ёй для будаўніцтва сядзібнага

дома прывезлі лістоўніцы не менш, чым стагадовага ўзросту. У вакольных лясах вялікіх дрэў, ды яшчэ патрэбнай пароды, не было, таму пачалі вазіць бярвенне з Лынтупшчыны, з Дамуцёўскай пушчы. Але і там лістоўніцы было не багата. Зразумеўшы, што пані не дужа разбіраецца ў драўніне, сяляне сталі пілаваць і грузіць на вазы сасну.

Пані Бажэчкова ўласнаручна вяла ўлік прывезенага бярвення, каб не было ніякіх памылак. Мужыкі на вазах з лесам павінны былі праехаць каля яе часовай рэзідэнцыі, адзначыцца, а потым адвезці бярвенне да новай сядзібы і разгрузіць іх. Здавалася, што ўлік і кантроль былі наладжаны добра. Аднак мужыкі і тут яе абхітрылі.

Паколькі пані мела прыблізнае ўяўленне пра Дамуцёўскую пушчу, а многіх сялян у твар не ведала, то некаторыя з іх, праехаўшы з лесам каля пані і адзначыўшыся, потым кіраваліся да бліжэйшай вёскі, адпачывалі там гадзіны 2-3, а потым зноў з гэтым жа дрэвам праязджалі каля старога панскага дома. Пані, не заўважаючы падману, адзначала прывезеныя камлі. Урэшце, у яе спісе аказалася значна больш бярвення, чым на самай справе каля сядзібы. Яна так і не зразумела, дзе ж падзеўся запісаны лес. Сама ж вяла ўлік...

## БЯЗДОННАЯ СТУДНЯ

Каля пабудаванага сядзібнага дома пані Бажэчковай у Спорах трэба было мець студню, бо да возера Асцюцьева па ваду хадзіць было далекавата, а суседні ручай цёк у глыбокай лагчыне з вельмі стромкімі схіламі. І таму пачалі

капаць студню. Сяляне-мужыкі працавалі шчыра, стараліся, бо пані паабяцала добра заплаціць. Але дом стаяў на ўзгорку, да ваданосных пластоў было глыбока. Капалі мо з тыдзень. Цымбравіна за цымбравінай уваходзілі ў зямлю, а наверх падымаўся сухі пясочак і каменьчыкі. Усе пачалі нервавацца ды злавацца: столькі работы, а выніку няма.

Калі 20-я цымбравіна схавалася ў зямлі, мужыкі задумалі пайсці на хітрасць. Ноччу на кані яны прывезлі некалькі бочак вады і вылілі яе ў студню, а на наступны дзень пайшлі да пані Бажэчковай і сказалі, што пайшла вада. Гаспадыня захацела ўпэўніцца. У яе на вачах апусцілі ў студню вядро і выцягнулі яго напоўненае вадой. Узрадаваўшыся, пані шчодра заплаціла работнікам, і тыя пайшлі па сваіх хатах у спадзяванні, што ў хуткім часе іх зноў запросяць паглыбляць студню. Аднак іх ніхто так і не паклікаў. Як на дзіва, у той студні, колькі б з яе вады ні бралі, была яна там заўсёды. І добрая, смачная, халодная...



«Бяздонная студня»
Мал. К. Дунец

## АХВЯРА НА КАСЦЁЛ

Кажуць людзі, што перад Першай сусветнай вайной у задзеўскім касцёле стаяла невялікая дубовая труна. Зверху яна была закрыта шклом, праз якое можна было ўбачыць, што спачывае ў ёй малы хлопчык гадоў пяці.

Паводле падання, у Задзеўі – на той час ладным мястэчку з базарамі і кірмашамі – здаўна стаяў старадаўні драўляны касцёл. За доўгі век бярвенне паступова падгнівала, трухнела, губляла сваю моц, і храм пачаў разбурацца. Бачачы гэта і маючы жаданне ўлагодзіць Бога, мясцовы магнат пачаў будаваць новы мураваны касцёл. Сабраў майстроў – і справа пайшла. Знеслі стары храм і на тым самым месцы пачалі ўзводзіць новы. Па праекце гэта павінен быў быць высокі і велічны касцёл. Каб яго змураваць, ладзіліся высокія рыштаванні.

Фундатар часта прыязджаў паглядзець, як ідзе будаўніцтва. Аднойчы ён узяў з сабой свайго пяцігадовага сына. Хлопчык, убачыўшы, як будаўнікі па сходках падымаюцца на рыштаванні, пачаў прасіць бацьку таксама ўзысці туды. Магнат пагадзіўся і, моцна трымаючы сына за руку, пачаў асцярожна падымацца па лядачых прыступках. Раптам ці то самі па сабе, ці з чыёй “ласкі” рыштаванні захісталіся, бацька на імгненне згубіў раўнавагу і на хвіліну адпусціў руку хлопчыка. Гэта хвіліна аказлася трагічнай. Не маючы моцнай бацькавай апоры, хлопчык паваліўся, скаціўся з рыштаванняў і паляцеў уніз…

Касцёл у Задзеўі быў амаль поўнасцю зруйнаваны ў часы Першай сусветнай вайны.

# ПРАКЛЯЦЦЕ САДОЎНІЦЫ

Задумаў аднойчы уладальнік Лучая генерал барон Клейгіс пасадзіць на сваіх землях новы сад. Для гэтай справы нанялі вопытную жанчыну-садоўніцу. Яна ўзялася за работу не адна – дапамагала ёй у ва ўсім яе прыгажуня-дачка. З раніцы да позняга вечара працавалі яны на полі: капалі ямы, высаджвалі дрэўцы, падвязвалі іх да калкоў. Барон часта прыязджаў на конях да гэтага маладога сада, каб паглядзець, як рупна і зладжана ўпраўляюцца з саджанцамі маці з дачкой, як хутка павялічваецца яблынева-вішнёвая пасадка. Але не толькі дзеля гэтага прыязджаў сюды пан. Кінулася яму ў вочы зграбная постаць маладой дзяўчыны, яе доўгая чорная каса, гарэзлівыя вочы, звонкі смех. Завірыла ў старэчых жылах кроў, ускружыў юр галаву. І пачаў тады барон дамагацца дзявочай увагі: то кветачку падорыць, то падаруначак невялікі прывязе. Але не было з боку прыгажуні ніякай узаемнай прыхільнасці да пана. Ды і маці была незадаволена гэтымі заляцаннямі. Яна вярнула барону ягоныя падаруначкі і папрасіла пакінуць дачку ў спакоі.

Такі паварот справы раз’юшыў пана. Яму, генералу, аднаму з багацейшых людзей Віленшчыны, далі ад варот паварот. Ды і хто?! Садоўніца нейкая…

І тады пан задумаў нядобрае. Аднойчы вечарам, калі пасадка сада заканчвалася барон паслаў слугу па дзяўчыну з наказам, каб прыйшла ў палац і прынесла зёлкі нібыта для лячэння гаспадара. Тая, нічога дрэннага не прадчуваючы, набрала лекавых траў і пайшла да пана.

Маці да паўначы чакала дачку, а потым, адчуўшы бяду, кінулася да палаца. Яна біла ў вароты, крычала, галасіла, але ніхто дзверы не адчыніў, нібыта яе і не чулі.

Толькі раніцай прыадчыніліся вароты і насустрач заплаканай маці выштурхнулі збітую і ускудлачаную дачку. Ад былой прыгажосці застаўся толькі цень…

І маці закрычала. Кажуць, такога крыку нікому з мясцовых не даводзілася чуць. У ім быў такі боль, што, здавалася, разрываецца сэрца. Маці праклінала і няшчасны маёнтак, і яго гаспадара.

І раптоўна ўзнялася бура, якой не памятаў ніводны тутэйшы старажыл. Шалёны вецер закруціў вялізныя віры пылу, пачаў ламаць дрэвы, зрываць стрэхі з хат. Неба змяшалася з зямлёю і стала так цёмна, нібыта прыйшоў канец свету. Доўжылася гэта, аднак, нядоўга, усяго некалькі хвілін. Бура сцішылася гэтак жа нечакана, як і ўсчалася. Ураган знішчыў усе маладыя пасадкі і амаль усе дрэвы ў ваколіцах маёнтка. Ацалелі толькі дзве магутныя сасны, якія ўзвышаліся каля дарогі на Гаўрылавічы. А ў мураванай вежы, што стаяла над возерам, верхняя частка была зрэзана і з усяе моцы абрынута на зямлю. Дзе падзеліся маці з дачкой і што з імі сталася, пра тое ніхто і не ведае. Толькі кажуць, што на тым месцы, дзе быў пасаджаны малады сад, туманнымі вечарамі пры месячным святле зрэдку можна ўбачыць дзве жаночыя постаці, а з боку возера пачуць нейкае самотнае доўгае рэха. Хто там каго гукае?..

## ПРА ПАНІ РОМЭРАВУ З КАРАЛІНОВА

На могілках паміж вёскамі Каралінова і Канябічы побач з магілай паўстанца Фларыяна Даноўскага знаходзіцца пахаванне Ванды Ромэр, былой уласніцы тутэйшага маёнтка. Паходзіла яна са знакамітага роду Сулістроўскіх, якія здаўна валодалі Караліновам. Яе мужам быў вядомы мастак і медальер Альфрэд Ромэр, карціна якога "Хрыстос і сірата" і зараз упрыгожвае ўнутранае ўбранне камайскага касцёла.

Гаспадар памёр рана, у канцы XIX стагоддзя, і Ванда засталася ўдавой. Адзіная дачка Гелена жыла то ў Варшаве, то ў Вільні, а пані Ромэрава сама ўпраўляла маёнткам. І гэта ў яе атрымлівалася, відаць, зусім нядрэнна, пра што сведчасць рэшткі былых вялікіх кароўнікаў, стайняў ды іншых гаспадарчых пабудоў, якія датрывалі да сёння. Гаспадыню маёнтка паважалі сяляне мясцовых вёсак, бо ставілася яна да іх як да роўных, усе пытанні вырашала справядліва, з розумам.

Пра тое, што гэта сапраўды было так, сведчыць адзін яскравы выпадак, які застаўся ў людской памяці.

…Прамінуў міжваенны час. Выбухнула Другая сусветная. На Пастаўшчыну ў 1939 годзе прыйшлі аддзелы Чырвонай Арміі, пачала ўсталёўвацца савецкая ўлада. Канфіскоўваліся маёнткі, зямля і маёмасць раздавалася сялянам, а гаспадары і ўласнікі ехалі не па сваёй волі ў Сібір "на белыя мядзведзі". Паступіў загад з Паставаў у амайскі сельсавет і ў дачыненні да Каралінова: маёнтак нацыяналізаваць, а старую пані выслаць. Для таго, каб

арыштаваць Ванду Ромэр, з Камаяў да яе сядзібы пехатой адправілі двух чырвонаармейцаў з вінтоўкамі. Зразумела, што пані Ромэрова, якой на той час ішоў восемдзесят шосты год, ніякага супраціву прадстаўнікам новай улады фізічна аказаць не магла і таму пакорліва сабралася і пад канвоем рушыла ў бок Камаяў.

Было ціха і бязлюдна. Чырвонаармейцы з арыштанткай спакойна мінулі вёску Каралінова, мясцовыя могілкі, гарадзішча. Але як толькі яны ўвайшлі ў вёску Ёдаўцы, то аж аслупянелі: вялікі натоўп людзей перагарадзіў усю дарогу паміж хатамі. Жыхары ўсіх вакольных вёсак сталі моўчкі і чакалі. Праходу не было. Адзін з чырвонаармейцаў падняў стрэльбу і крыкнуў:

– Разойдись! Стрелять буду!

Аднак гэты грозны выкрык нікога не прымусіў ратавацца. Наадварот, мясцовыя жыхары сышліся яшчэ шчыльней і чырвонаармейцы заўважылі, як заблішчэлі злыя агеньчыкі ў вачах людзей, як пагрозліва сціснуліся мазолістыя кулакі. Прадстаўнікі новай улады зразумелі сваё бяссілле.

Хтосьці з жыхароў сказаў:

– Самі праходзьце, а пані пакіньце з намі…

Натоўп расступіўся і чырвонаармейцы пад халоднымі позіркамі сялян пабрылі на Камаі. А заплаканую пані Ромэраву абступілі ўзрадаваныя вяскоўцы…

Пасля гэтага выпадку савецкая ўлада больш Ванду не турбавала. Яна перажыла “другія саветы” і амаль усю нямецкую акупацыю. Памерла ў 1944 годзе. У час пахавання на могілках сабралася шмат народу, а каля магілы стаяла ганаровая варта германскіх салдат…

# ТАЯМНІЦА ЧОРНАЙ ГАРЫ

Паміж Данеўцамі і Русакамі сярод лесу ўзвышаецца адметная гара з пляскатай вяршыняй. Вакол яе – дрыгвістыя балоты і невялікія, але глыбокія азёры. Мясцовыя жыхары завуць тое месца “Чорная гара”. Там і сапраўды на паверхні зямля выключна чорнага колеру.

Паводле легенды, на той гары ў даўнія часы стаяў прыгожы касцёл. Ён быў бачны здалёку, але падысці да яго можна было толькі па вузкай дарожцы з мастком праз ручай. Касцёл меў трывалыя сцены, а вакольныя балоты і стромкія схілы гары, на якой ён стаяў, рабілі храм амаль непрыступным.

У даўнія часы многа розных захопнікаў праходзіла праз наш край. І немцы, і рускія, і татары і шмат хто яшчэ. І ўсе яны неслі для тутэйшых жыхароў разбурэнні і галечу. Так адбылося, калі пачалася чарговая руска-польская вайна. Войскі маскоўскай дзяржавы прыйшлі на нашу зямлю як лютыя драпежнікі. Яны палілі касцёлы, вёскі, пасевы, рабавалі людзей, некаторых забівалі, іншых гналі ў палон.

Баючыся разбою і клапоцячыся пра касцельныя каштоўнасці, ксяндзы і вернікі Лынтупаў, Камаяў, Свіры, Гадуцішак і іншых бліжэйшых храмаў вырашылі звезці скарбы ў касцёл на Чорнай гары, бо лічылі, што гэта самае бяспечнае месца. Рабілі гэта ноччу, каб не патрапіць у палон да захопнікаў.

Але знайшоўся здраднік, які данёс маскоўцам пра скарбы і паказаў дарогу да Чорнай гары. Ваяводы накіра-

валі да яе сваё вялікае войска. Ворагі абкружылі гару, але адразу захапіць яе не ўдалося. Каля былога моста, які ўжо быў разабраны, маскоўцы атрымалі моцны адпор ад абаронцаў, а балотная твань паглынала ўсіх, хто спрабаваў праз яе перайсці. Тады захопнікі пачалі аблогу. Яны перадалі абаронцам папярэджанне: "Або здавайцеся, і вам будзе падаравана жыццё, або касцёл будзе ўзяты прыступам, і вы ўсе загінеце". Адказ быў дзёрзкі і нечаканы: "Хутчэй касцёл праваліцца скрозь зямлю, чым мы адчынем вам вароты".

Зразумеўшы, што абаронцы будуць змагацца да апошняга, маскоўцы пачалі рыхтавацца да штурму. Яны масцілі гаці цераз балоты, рабілі плыты і лодкі на азёрах, майстравалі лесвіцы, мацавалі вялікія дзіды, рыхтавалі іншы рыштунак для наступу.

І вось аднойчы на досвітку зайграла труба – гэта быў сігнал ісці на прыступ. Варожае войска з усіх бакоў рушыла ў бок касцёла. Як толькі пачаўся наступ, з балотаў стаў падымацца туман, ды такі густы, што поўнасцю закрыў Чорную гару. Але захопнікаў гэта не спыніла, наадварот, дало шанц падысці да самых сцен зусім непрыкметна. Маскоўскія ваяры перайшлі праз гаці, пераплылі праз азёры і, падступіўшы да падножжа гары, па лесвіцах пачалі падымацца на яе стромкія схілы. Было ціха і нічога не бачна. Туман згусцеў і зрабіўся як малако. На вяршыні гары было падазрона ціха: абаронцы ці то спалі, ці то не разумелі, куды трэба страляць.

У хуткім часе ваяры падняліся да вяршыні гары і з баявымі воклічамі рынуліся туды, дзе стаяў касцёл.

У тумане замільгацелі постаці і цені. Зазвінелі мячы і дзіды, палілася кроў. Але тут закрычалі: “Свае! Свае!” Сапраўды, разгледзеўшыся, убачылі, што вакол толькі тыя, што ішлі на прыступ. А дзе абаронцы? Дзе касцёл? Маскоўцы нічога не маглі зразумець.

Над лесам пачало падымацца сонца – і туман паплыў назад у свае балотныя нетры. На вяршыні Чорнай гары стаяла збянтэжанае рускае войска і са здзіўленнем і страхам аглядала ваколіцы. Ваяры ніяк не маглі паверыць, што касцёл праваліўся скрозь зямлю…

Гэта легенда не дае спакою скарбашукальнікам, у асноўным мясцовым падлеткам, якія час ад часу выкопваюць ямы на вяршыні гары ў спадзяванні знайсці якую-небудзь каштоўную гістарычную рэч. Між іншым, да нядаўняга часу там ляжала частка загадкавай каменнай пасудзіны ў выглядзе карытца. Некаторыя кажуць, што гэта ўсё, што засталося ад былога касцёла. Такія каменныя чашы з вадой ставяцца перад уваходам у храм, каб вернікі маглі абмыць рукі і твар.

## ГАРАДОК І ШВЕДСКІЯ МАГІЛЫ

Недалёка ад Азёрак у лясным гушчары сярод балотаў узвышаецца вялікі курган у выглядзе падковы, а трохі воддаль ад яго – яшчэ некалькі меншых курганчыкаў. Называецца гэтае месца Гарадок і Шведскія магілы. Адкуль тое ўзялося і чаму так завецца, пра гэта старыя людзі расказвалі такую гісторыю.

Вельмі даўно, гадоў трыста, а мо болей таму назад, у тутэйшых мясцінах зноў стала неспакойна. Прыйшлі на нашу зямлю новыя захопнікі – шведы. Смерць, разбурэнне і галечу неслі атрады заваёўнікаў. Хаты палілі, скаціну рэзалі, дзяўчат і жанчын гвалцілі. І не было паратунку ад іх сілы, ніхто не мог даць ім адпор.

Дачуліся і ў Паставах пра тое, што шведы захапілі Камаі, спалілі вёску, узялі ў аблогу касцёл. Сабраліся гаспадары, парадзіліся і вырашылі сысці сем'ямі ў бліжэйшае балота, каб перачакаць навалу. Пакінулі ў мястэчку толькі старых нямоглых ды тых, хто спадзяваўся на літасць заваёўнікаў, а самі рушылі ў лес па ледзь прыкметнай сцежцы сярод топкіх балот да невялікай выспы. Уладкаваўшы там лагер, падсыпалі гару, зрабілі ўмацаванні з найбольш небяспечнага боку, ад мястэчка. З іншых напрамкаў нападу не баяліся, бо там ляжала бяздонная твань.

Праз колькі дзён уварваліся ў Паставы заваёўнікі і пачалі рабаваць і паліць мястэчка. Але яны заўважылі, што ў паселішчы засталіся у асноўным толькі старыя ды хворыя. Пачалі тады шведы іх катаваць, дапытваць, каб даведацца, куды ж падзеліся дарослыя. Знайшоўся адзін жыхар, які пагадзіўся адвесці атрад захопнікаў да таго месца, дзе хаваліся ўцекачы. У прадчуванні хуткай здабычы шведы, як ваўкі, рушылі па сцежцы за павадыром. Яны стараліся ісці як мага цішэй, каб знянацку напасці па лагер. Аднак ім гэта не ўдалося, бо раскрычаліся сойкі, якія сваім лямантам папярэдзілі і людзей, і звяроў пра тое, што ў лесе з'явіліся чужынцы. Жыхары паспелі

зрабіць засаду. Хто затаіўся на дрэве, хто залёг у хмызах, хто схаваўся ў балотнай твані. І калі шведскі атрад падыходзіў да выспы, тры разы гучна пракрычала сойка і на захопнікаў з усіх бакоў накінуліся местачкоўцы. Хто мясіў ворагаў доўбняй, хто калоў пікай, а хто – сякерай. Шведы нават не паспелі апамятавацца. Некаторыя загінулі адразу, іншыя ж кінуліся наўцёкі. Але ўратавацца нікому не ўдалося, бо ваяры, збочыўшы са сцежкі, траплялі ў багну, якая паглынала іх у сваёй бяздоннай твані. Пазней забітых шведаў пахавалі непадалёку ад лагера, насыпаўшы над магіламі горачкі пяску.

Вось з таго часу месца, дзе хаваліся жыхары мястэчка, завецца Гарадок, а пахаванні захопнікаў – Шведскія магілы.

## ЗАМАК І ВАЛАТОЎКІ

Даўным-даўно жылі на нашай зямлі высокія і дужыя людзі. Звалі іх волатамі. Мелі яны такую сілу, што маглі лёгка вялікае дрэва з коранем вырваць ці мядзведзя пабораць. І жанчыны ў іх былі высокія і стройныя.

Жылі волаты ў замках, якія будавалі ў глухіх лясах каля рэк ці азёр. Займаліся паляваннем, збіралі грыбы, ягады ды лекавыя травы, лавілі рыбу. Вось і ў нашай мясцовасці каля ракі Заражанкі на высокай гары стаяў іх замак. Зараз там усё зарасло лесам, а зямля перакрыта такім густым слоем моху, што слядоў таго паселішча і не ўгледзіш. Але мясцовыя жыхары кажуць, што і цяпер яшчэ ў некаторых месцах трапляюцца кавалкі чырвонай цэглы. Ды і саму гару спрадвеку завуць “Замак”.

А непадалёку ад той гары – цэлае поле курганоў. Яны таксама зараслі лесам і іх цяжка знайсці. Гэта магілы тых волатаў, што жылі ў Замку. Месца так і завецца – “Валатоўкі”.

Пра тутэйшыя мясціны існуе наступная легенда. Доўгі час жылі людзі на нашай зямлі спакойна, займаліся сваімі простымі штодзённымі справамі, аж пакуль не з’явіўся тут вялікі Змей. Упадабаў і ён наш край, асабліва балота, што раскінулася вакол Халасенскага возера. Дзікія, глухія мясціны тады там былі. Гэты Змей збудаваў на востраве сабе палац, з якога выпаўзаў раніцай і вечарам, каб чыніць разбойныя напады на вакольныя вёскі. Спачатку кусаў і цягнуў да сябе ў балота скаціну: коней, кароў, авечак, а потым, асмакаваўшыся, і на людзей пераключыўся. Асабліва ўпадабаў ён маладых дзяўчат, якіх нёс у палац і прымушаў іх там працаваць ды сябе ўлагоджваць.

Страх распаўсюдзіўся па нашай зямлі. Гаспадары баяліся за сваю скаціну, бацькі – за сваіх дзяцей. Ды і дарослыя баяліся далёка адыходзіцца ад сваіх хат.

Аднойчы ўвечары Змей напаў на Замак, у якім жылі волаты, і пацягнуў у балота самую прыгожую дзяўчыну. Не паспелі асілкі адбіць яе ў той пачвары. Пасля гэтага сабраліся волаты на раду і вырашылі забіць Змея. Але зрабіць гэта было няпроста, бо той быў дужы і хітры: поўзаў нячутна, з’яўляўся нечакана, знікаў непрыкметна.

Вырашылі яго волаты перахітрыць і выманіць з багны на сухое месца, каб было зручней біцца з ім. Паставілі адну маладую дзяўчыну на ўзлеску пры балоце і загадалі гукаць так, быццам бы яна заблудзілася ў лесе і не магла выйсці. А самі схаваліся ў засадзе.

Пачуў Змей тое гуканне, выпаўз з балота. І тут на яго з усіх бакоў напалі волаты. Пачалася зацятая бітва. Волаты лупцавалі гада доўбнямі, калолі пікамі, seклі сякерамі, Змей жа кусаў сваіх ворагаў вострымі зубамі, пырскаўся атрутай, адбіваўся моцным хвастом. З раніцы і аж да вечара не перапынялася бойка. Ніхто не хацеў саступаць. Змеева кроў перамешвалася з крывёй волатаў, залівала ўзлесак і сцякала да балота.

Усе волаты загінулі. Але і Змей быў смяротна паранены. Ледзь жывы папоўз ён у сваё балота і болей ніхто яго не бачыў. Толькі кажуць, што з яго крыві наплодзілася многа малых змеяў, якія і зараз у вялікай колькасці сустракаюцца ў ваколіцах возера. Іншыя расказваюць, што той Змей дапоўз аж пад Ваўкалаты і там сканаў. І магіла яго захавалася – гара Змяёўка.

Волатаў жа пахавалі недалёка ад Замка, у якім яны жылі. Таму і завецца тое месца Валатоўкі.

А напамін пра даўняю бітву волатаў са Змеем можна ўбачыць сяды-тады ў балоце каля возера Халасенскага: уздымуцца на паверхню вады чырванавата-бурыя плямы, расцякуцца крывавай плёнкай паміж купінамі асакі і чароту ды і знікнуць гэтак жа нечакана, як і з’явіліся. Кажуць, гэта рэшткі крыві, што сцякла даўным-даўно ў балота пасля той вялікай бітвы.

## ПАХАВАННІ КРАСНЯНСКІХ ГАСПАДАРОЎ

Недалёка ад вёскі Сергі на тэрыторыі сучаснага Мядзельскага раёна раней знаходзіўся вялікі гасподскі двор Красняны. Пра яго гаспадароў тут распавядаюць такую гісторыю. Ужо пасля вайны, пры "новых саветах", вялі будаўнікі дарогу ад Краснян на Сяргеевічы. Каля ракі Заражанка, раскопваючы зямлю, парушылі даўні панскі фамільны склеп. У дубовых трунах пад шклом ляжалі целы мужчыны і жанчыны, падобна на тое, што мужа і жонкі. На іх было цэлае, не кранутае цвіллю, багатае адзенне, галава жанчыны павязана дыхтоўнай хусткай, у мужчыны – доўгая чорная барада. Целы зусім не былі кранутыя тленнем – складалася ўражанне, што гэтыя людзі заснулі.

Паглядзець на такое дзіва збегліся не толькі дарожныя рабочыя, але і жанчыны, якія недалёка жалі збажыну. Адна з іх правяла вострым канцом сярпа па назе пахаванай жанчыны. Усе ўбачылі, што ўтварыўся парэз, з якога паказаліся кроплі крыві.

Зразумеўшы, што тут робіцца штосьці незвычайнае, дарожны майстар загадаў выкапаць экскаватарам каля дарогі яму, у якую і ўкінулі труны з нябожчыкамі. Зверху паставілі тыя ж помнікі, што ўзвышаліся над імі раней. Яны і зараз стаяць пры дарозе на Красняны.

# БЛАДЗЮК І МІХАЛІНА

Было гэта ў хуткім часе пасля вайны. У ваколіцах нашай вёскі па палях і на ўскрайку лесу валялася шмат living рознай зброі і ваеннай тэхнікі, якую пакідалі ў час баёў і немцы, і чырвонаармейцы. Мы, яшчэ тады пацаняты, шукалі гэтыя “цацкі”, гулялі з імі, хаваючы ад дарослых у прывясковым бярэзніку.

Вось аднойчы мой старэйшы сябрук Колька знайшоў недзе адмысловае магнета і запальчыва даказваў усім хлопцам, што яно скручана з самалёта. Мы спачатку сумняваліся, бо таго самалёта ў нашых ваколіцах ніхто не бачыў, але потым, калі ён паказаў, якую іскру выбівае гэта штука, то ўсе адразу паверылі. Сапраўды, магнета давала такі ток, што чалавека аж калаціла, калі той пралятаў праз цела.



Бладзюк і Міхаліна
Мал. К. Дунец

Ведаючы моц гэтай штукі, мы з сябрам чакалі моманту, каб праверыць яе дзеянне ў якой-небудзь жыццёвай сітуацыі. І вось аднойчы такая магчымасць падвярнулася.

У канцы вёскі жыла мажная дужая жанчына Міхаліна. Пасля вайны да яе на прымакі прыйшоў Бладзюк – невялікага росту, спакойны, нават марудлівы мужычок. Ён ціхім сапам вёў усю сялянскую гаспадарку, а Міхаліна кіравала і камандавала ім. Розум у жанчыны быў ясны, , і таму гаспадарка вялася паспяхова. З усіх вяскоўцаў жылі яны, бадай, найзаможней.

Дык вось, неяк вясной у цёплы вільготны дзень выправіла Міхаліна свайго мужыка абгароджваць дротам агарод, каб каровы летам не ўчынілі патравы. Мы назіралі здалёку, як гаспадар павольна раскручваў даволі вялікую бухту дроту, якую таксама падабраў недзе пасля вайскоўцаў, закінуўшы канцы ў даволі глыбокі равок каля сажалкі. У нас адразу ўзнікла геніяльная, як нам тады здавалася, ідэя. Каб яе ажыццявіць, мы, дзе подбегам сагнуўшыся, дзе паўзком, пракраліся да той сажалкі і затаіліся. Прымацаваўшы дрот да магнета, пачалі чакаць. Ляжаць у раўку давялося даволі доўга, бо Бладзюк спачатку таптаўся па дварышчы, потым зачэсваў калкі для абгародкі, забіваў іх у зямлю. Нарэшце ён падышоў да дроту і ўзяў яго ў рукі. От тут мы не драмалі: цісь рычажок на магнета – і паляцеў ток да гаспадара. Таго, беднага, аж страсянула. Выпусціў ён дрот з рук, агледзеўся па баках, пачухаў патыліцу і зноў узяўся за дрот. А мы зноў – цісь! Бладзюк аж падскочыў, адкінуўшы драціну ад сябе.

А гэта ўсё праз акно назірала Міхаліна. Яна выскачыла на ганак і залямантавала:

– Што гэта з табой, Бладзюк, робіцца? Што ня возьмісся рабіць, дык усё не так як у людзей! Чаго ты дрот кідаеш аб зямлю?

– Ай, Міхаліна, не ведаю. Мо раматуз які прыключыўся. Трасе мяне...

– Хоць што выдумляеш... Раматуз трасе... Толькі што палудневаў і ні на што не жаліўся...

З гэтымі словамі яна падышла да яго і ўзяла ў рукі дрот. А мы зноў – цісь!

Бедная жанчына падскочыла вышэй, чым яе муж.

– Аё-я-ёй! – залямантавала яна зноў, – і праўда, нейкая халера б’е. Усё! Кідай гэту работу. Казала ж, не рабі ў свята! Дык не, не паслухаўся! Вось нячыстая сіла і вырабляецца. Ідзі ў хату.

І пагнала Міхаліна свайго Бладзюка дадому. А мы, хаваючыся, прашмыгнулі да маёй хаты. Так і не здагадаліся, не даведаліся муж з жонкай, што за жарт мы з імі ўчудзілі.

А свой агарод абгарадзілі яны пазней жэрдкамі...

## БЕЛЫЯ БУЛАЧКІ

У вёсцы Лапінцы, што на Камайшчыне, у верасні 1939 года, як і на ўсіх “крэсах Усходніх”, было неспакойна. Стала вядома пра напад Германіі на Польшчу, а ў хуткім часе – і пра наступленне Чырвонай Арміі.

Праз вёску прайшлі разгубленыя і стомленыя атрады польскіх уланаў. Іх прыгожая форма запомнілася

мясцовым жыхарам. Вёска з цікавасцю і бояззю пачала чакаць падыходу чырвонаармейцаў. Розныя чуткі распаўсюджваліся тады пра Савецкую Расію. Адны казалі, што там ужо пабудаваны рай, які завецца камунізм, іншыя ж наадварот сцвярджалі, што бальшавікі ні за што забіваюць людзей, а ў савецкіх вёсках – галадамор і галеча. Але большасць жыхароў верыла, што пераможная армія, якая нясе вызваленне ад улады паноў, магутная, баяздольная і добразабяспечаная. Якое ж расчараванне чакала іх, калі яны ўбачылі першых чырвонаармейцаў! Гэты быў натоўп паўгалодных абарваных ваякаў, якія шэрай масай рухаліся паўз вёску.

Адзін чырвонаармеец падышоў да мясцовага жыхара і запытаўся: “Скажи, отец, далеко ли до Вильни? Очень хочется белых булочек попробовать…”

Гэтыя словы яшчэ доўга потым вяскоўцы ўзгадвалі ў размовах. Ім усё адразу стала зразумела. Калі чырвонаармейцы не ведаюць, што такое белы хлеб, то можна было ўявіць, які “рай” пабудаваны ў Савецкай Расіі…

## ВЕСЯЛУХА

На правым беразе ракі Лучайкі недалёка ад Савічаў ляжыць невялічкая вёсачка з гарэзлівай назвай Весялуха. Адкуль пайшло найменне паселішча? З якой нагоды весяліліся яго жыхары?

Як сведчыць паданне, у сярэдзіне XIX стагоддзя, калі ў ваколіцах Савічаў адбываўся перадзел зямлі, знайшлося некалькі гультаяватых гаспадароў, якія адмовіліся ад сваёй долі, не захацелі абрабляць вялікія палеткі,

а пасяліліся бліжэй да лесу на беразе ракі, узяўшы сабе па пары гектараў ворнай зямлі. А зямля ж – карміліца! Іншыя гаспадары пыталіся: “Чаму ад большых надзелаў адмаўляецеся?”, а тыя адказвалі: “Зямлі меней – жыць весялей!” Адгэтуль і пайшла назва вёскі. І хто ведае, мо і не прагадалі першажыхары Весялухі. У той час, як сяляне суседніх Савічаў, Міхнічаў і Захараўшчыны выціскалі з сябе апошнія сілы, каб апрацаваць вялікія палі неўрадлівай зямлі, “вясёлыя” людзі лавілі рыбу, збіралі грыбы-ягады ды палявалі звяроў. І не чапала іх ні польская ўлада, ні савецкая. Што ўзяць? Малазямельныя, бедныя, гультаяватыя. Але весяляцца і гуляюць. І праўда – Весялуха.

## ЛЯСНЫ БРАТ

Было тое даўно, адразу пасля вайны. Прыехаў у нашу вёску фінагент людзей на пазычку падпісваць ці то мо падаткі збіраць – зараз ужо дакладна і не прыпомню. А вёска пры лесе, пры вялікай Варапаеўскай дачы, стаіць. А там, у тым лесе, лясныя браты хаваліся. Тыя партызаны, што супраць саветаў. Забілі яны некалькі агітатараў-камуністаў, таму агенты розныя да нас наведвацца пабойваліся. А вось гэты не забаяўся, хоць, пэўна ж, меў страх у сярэдзіне. Але віду не падаваў.

Дык вось, ідзе ён нашай вёскай: скуранка, капялюшык, сумачка пад пахаю. А насустрач яму – стары Падгайскі. Яму тады гадоў пад семдзесят было – высокі, цыбаты, у даўгім паношаным польскім плашчы, падперазаны салдацкім рэменем з кукардай, у добра-такі падраных ботах...

Вось яны сышліся, параўняліся. Павіталіся. Агент прыкінуў, што стары – чалавек бясшкодны, лаўтух, ды і пачаў яго ўгаворваць падпісацца на пазыку.

Падгайскі стаяў, слухаў, моршчыў твар (звычка ў яго такая была), а потым паволі пачаў рукой адхінаць левае крысо свайго доўгага плашча. Агент заўважыў гэты рух, зірнуў – і адразу анямеў. Рука старога Падгайскага гэтак жа павольна расшпільвала раменьчык пісталетнай кабуры, якая вісела на пасе пад плашчом.

Нямая сцэна доўжылася імгненне. Агент кінуў на зямлю сваю сумачку, развярнуўся ды што было моцы кінуўся бегчы.

З-пад ног разлятаўся то жвір, то гразь з лужын. Ён бег задыхаючыся, баючыся азірнуцца, у напружаным чаканні стрэлу за спіной. Але ніхто не страляў ды і не гнаўся за ім.

– Гэй, каго ты спужаўся? – пачуўся ззаду голас старога. – Я ж толькі прыкурыць хацеў.

Агент спыніўся. Азірнуўся.

Стары Падгайскі дастаў з кабуры люльку, набіў яе табакай і, смачна закурыўшы, пусціў у паветра духмяныя кольцы дыму...

## ЗАЛАТАЯ ГОРКА

Каля вёскі Хрыстова ёсць узгорак, які завецца Залатая горка. Калі ўзнікла гэта назва і чаму – пра тое ніхто не ведае.

Аднойчы адзін чалавек расказаў мне легенду пра Залатую горку. Ці пра тую, што каля Хрыстова, ці пра якую іншую, але падалася яна мне цікавай і вартай таго, каб расказаць іншым.

Дык вось, каля адной вёскі ўзвышалася вялікая гара, якую ўсе называлі Залатая горка. На яе вяршыні стаяў незвычайнай прыгажосці палац з залатой страхой і залатымі аканіцамі. А вакол яго – пышны і багаты парк з незвычайнымі і дзіўнымі раслінамі і дрэвамі. Па тым парку гулялі апранутыя ў белыя адзежы людзі, а паміж імі хадзілі розныя звяры, лёталі нябачаныя ў нашых краях птушкі. Але патрапіць туды было немагчыма, бо вакол горкі ўзвышалася высокая агароджа, да якой нават і падыходзіць забаранялася. Праўда быў у вёсцы адзін адчайны чалавек, які крадком падцікаўся да той агароджы і праз шчэлку ў плоце разгледзіў, што там адбываецца. Потым, вярнуўшыся, расказаў аднавяскоўцам пра той незвычайны свет, які змог убачыць. Але моцна захварэў той чалавек пасля таго, як пабываў на Залатой горцы, доўга мучыўся і, зусім саслабеўшы, памёр.

І ўсё ж папасці на тую гару можна было, але толькі пасля смерці. Быў у вёсцы такі звычай: калі чалавек паміраў, то неслі яго на Залатую горку і пакідалі каля варот агароджы. А далей магло быць па-рознаму. Або адчыняліся вароты, з'яўляліся анёлы, якія ажыўлялі чалавека, апраналі ў белыя адзежы і вялі за сабой ў цудоўны палац. Або да агароджы падыходзілі драпежныя звяры, якія рвалі цела чалавека на кавалкі і цягнулі тыя кускі некуды ў пушчу.

Таму Залатая горка – гэта тое месца, дзе можна шчасліва жыць і пасля смерці.

## ЗМЕСТ

